*Віншуем са Святамі!*



# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714

*Беларускія патрыёты* → 3



http://niva.iig.pl
redakcja@niva.iig.pl

**№ 15 (2917) Год LVII** **Беласток, 8 красавіка 2012 г.** **Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)**

# Адміраем, выязджаем

Тэкст і фота
Мацея ХАЛАДОЎСКАГА



**Злева:** Ежы Сірак — бурмістр Гайнаўкі, Юры Васілюк — войт Чыжоўскай гміны, Лявон Малашэўскі — войт Дубіцкай гміны

**Самаўрадаўцы Гайнаўскага павета не здзіўляюцца ўступнымі вынікамі датычнымі ліку беларусаў, пражываючых у Польшчы, апрацаванымі на падставе мінулагодняга Нацыянальнага перапісу насельніцтва Галоўнай статыстычнай установай (ГСУ), а абнародаванымі 22 сакавіка ў час II Дэмаграфічнага кангрэса ў Варшаве. Прыгадаем, што згодна з імі беларускую прыналежнасць дэкларавала 47 тысяч асоб, у тым ліку падаючы яе як першую — 37 тысяч. У час папярэдняга перапісу — у 2002 годзе — беларусамі назвалі сабе каля 49 тысяч грамадзян (было тады пытанне толькі аб адну прыналежнасць). Дасюль не змаўкаюць крытычныя галасы наконт метадалогіі правядзення мінулагодняга перапісу, а перш за ўсё адосна прадстаўнічага метаду, значыць, выбару для даследавання толькі адной пятай часткі абшару краіны, ды асабліва непрызнавання ГСУ пры апрацоўцы перапісных дадзеных інтэрнэтнага самаперапісу.**

Калі кіраўніцтва ГСУ ў Варшаве агучала „Асноўныя інфармацыі аб дэмаграфічна-грамадскай сітуацыі Польшчы і жыллёвых рэсурсах”, значыць, першыя вынікі нацыянальнага перапісу, у Семяноўцы члены Сеймавай камісіі нацыянальных і этнічных меншасцей на выязным пасяджэнні дэбатавалі з самаўрадаўцамі пушчанскіх гмін Гайнаўскага павета аб гаспадарчай сітуацыі павета, асабліва ў кантэксце змены законапраекта аб ахове прыроды, адхіляючым самаўрады ад магчымасці ўплыву на пашырэнне або ліквідацыю нацыянальных паркаў. У гайнаўскім кантэксце гаворка была, вядома, аб спробе пашырэння ахоўваных тэрыторый Белавежскага нацыянальнага парку (пісалі мы аб гэтым у папярэднім нумары „Нівы”). Гаварылі м.інш аб тым, што ўжо ў кожнай з пушчанскіх гмін штогоду назіраецца скарачэнне ліку жыхароў, а пашырэнне Парку давядзе праўдападобна да яшчэ большага адтоку тутэйшых, карэнных беларусаў (асабліва маладых), што ў выніку можа спрычыніцца да паглыблення змен цяперашняй нацыянальнай структуры на гэтай тэрыторыі.

Гайнаўскія самаўрадаўцы (але і дэпутаты з меншаснай камісіі) у Семяноўцы аб выніках наконт пачуцця беларускай прыналежнасці ў перапісных дадзеных даведаліся ад нас ды ад журналістаў Радыё Рацыя і рэдакцыі беларускіх перадач Радыё Беласток. Каменціравалі тыя дадзеныя тут жа. Войт Нараўчанскай гміны **Мікалай Павільч**, сугаспадар сустрэчы ў Семяноўцы:

— Несумненна, наш лік паменшаў, бо частка старэйшых жыхароў памерла. Іншая частка з’ехала за мяжу. Яшчэ іншая — мабыць — не прылічыла сябе да беларусаў. Гэтая група, якая ў папярэднім перапісе запісалася беларусамі, аказваецца быць стабільнай у сваёй свядомасці, з якой нацыянальнасцю ідэнтыфікуецца. І гэта добры прыклад. Ад апошняга перапісу лік жыхароў у нас паменшаў на нейкія трыста чалавек, прытым тыя, што з’ехалі за мяжу, адначаны ў нашых дакументах, што прапісаны ў нас. З гэтых трохсот асоб частка або эміgравала на пастаянна, або памерла.

Перапісныя дадзеныя важныя настолькі, што ў гэтых гмінах, дзе пражывае прынамсі 20-працэнтная г.зв. меншасная папуляцыя, магчыма ўвядзенне двухмоўных указальнікаў з назвамі мясцовасцей (пакуль гэтай магчымасцю пакарысталася ў паўднёва-ўсходняй частцы Беласточчыны толькі Орля) ды карыстаннем мовай меншасці як дапаможнай у мясцовых установах. Войт Павільч:

— Ужо ў папярэднім скліканні Гмінай рады беларуская мова як дапаможная была ўведзена ў нашай установе. Калі гаворка пра двухмоўныя табліцы, то ў час сустрэч з жыхарамі вёсак нашай гміны гаварылі яны, што яшчэ не цяпер. Аргументы бываюць розныя, ды я лічу, што волю жыхароў трэба ўшанаваць.

Гайнаўскі віцэ-староста **Андрэй Скепка:**

— На маю думку, беларусаў нашмат больш, чым паказвае перапіс. Шмат з іх называе сябе польскімі беларусамі. Калі б была ў пытанні прыпіска, ці праваслаўны, то той вынік быў бы нашмат большы. Дзве тысячы беларусаў гэта, аднак, не так шмат, прымаючы пад увагу тое, што многа з іх адышло на вечны спачын, а многа выехала. Важна, што вынікі адносна беларусаў паміж папярэднім і цяперашнім перапісамі аж так нашмат не адрозніваюцца.

Дадаў:

— Калі гаворка пра Падляшскае ваяводства, фактычна Гайнаўскі павет стаіць на першым месцы, дзе найбольшая міграцыя. На працягу дзесяці гадоў з 52, а нават 53 тысяч людзей — цяпер тут 46 тысяч. Моладзь, якая тут вучыцца і якая магла б тут застацца, не мае тут працы і шукае яе ў вялікіх гарадах. Гэта, дарэчы, відаць ва ўсёй Польшчы, дзе маем развіццё вялікіх гарадоў, затое вёскі і малыя мясцовасці адміраюць. Калі людзі прыязджаюць пасля на бацькаўшчыну, то хутчэй на дачы. Мае гэта сувязь таксама з пашырэннем Белавежскага парку. Відаць гэта хаця б у Семяноўцы, у якой дрэваапрацоўчае прадпрыемства звозіць драўніну з замежжа, а нават з-па-за Падляшскага ваяводства.

Войт Чыжоўскай гміны **Юры Васілюк:**

— Шкода, што той лік жыхароў, якія прызнаваліся некалькі гадоў таму да беларускай нацыянальнасці, паменшыўся. Здавалася б, што асоб, якія голасна да гэтага прызнаюцца, павінна быць больш. Мабыць, дзеянні паасобных самаўрадаў наконт гэтага неадпаведныя, і трэба больш задумацца над інтэнсіфікацыяй працы над свядомасцю нашых жыхароў. Можа ў гмінах, дзе калісь ахвотна прызнаваліся да сваёй беларускасці, сёння не хочуць прызнавацца. Маем цяпер час на аналіз гэтай праблемы, асабліва калі былі б ужо дадзеныя аб паасобных гмінах. У нашай гміне ўсе імпрэзы, арганізоўваныя намі, спасылаюцца на нашы традыцыі і карані. Мы ўвялі ў гміне беларускую мову як дапаможную. У будучыні вельмі сур’ёзна разважым устаноўку двухмоўных табліц.

Войт гміны Дубічы-Царкоўныя **Лявон Малашэўскі:**

— Увесь перапіс быў так сканструяваны, што яго вынікі немагчыма палічыць верагоднымі. Прыняты прадстаўнічы метад ніяк не паказвае фактычнага становішча. Ды напэўна нас менш. У Дубіцкай гміне, калі я прыйшоў на працу ў 1983 годзе, было 3,8 тысячы жыхароў, а цяпер іх 1,8 тысячы. Як відаць, паніжэнне значнае. Вёскі абязлюджваюцца ў страшэнным тэмпе. Наколькі памятаю вынікі папярэдняга перапісу, у нашай гміне было каля 80 працэнтаў беларусаў. Цяпер баюся, што калі гаворка пра гэты паказчык, будзе ён значна паніжаны.

Пры нагодзе дубіцкі войт адзначыў:

— Калі я год таму стаў на пасаду, у першую чаргу рэактываваў тут беларускі фэст, якога ў нашай гміне дасюль не хапала [сёлета адбудзецца ён 5 жніўня — М. Х.]. Ёсць украінскі фэст, але лічу, што нашы [беларускія — М. Х.] жыхары таксама заслугоўваюць на такую масавую імпрэзу. Афіцыйна не маем беларускай мовы як дапаможнай у гміннай управе, але кожны, хто прыйдзе і схоча аформіць справу па-свойму, не мае з гэтым праблемы. Няма тут такой патрэбы, можа таму, што працаўнікі ўстановы ў 90, а можа нават у 95 працэнтах гэта карэнныя беларусы. Калі гаворка пра двухмоўныя ўказальнікі, дык я далікатна прапанаваў

працяг ☞ 11

9 770546 196000



# Асцярожна, злы кот

*Дзень пачаўся як заўжды. Найперш залез я на некалькі сайтаў, паглядзеў што робіцца на свеце і ў Беларусі. Дазнаўся, што ўчарашні дзень, першага красавіка, які ў нас называюць днём дурня або днём гумару, прайшоў не так весела, як у мінулыя гады. Таксама даведаўся, што кіраўнік Беларусі ўжо другога красавіка паслаў віншаванні свайму расійскаму калегу з нагоды Дня яднання народаў Беларусі і Расіі, дзе запэўніў, што працяг курсу на далейшае паглыбленне інтэграцыйных працэсаў цалкам адпавядае інтарэсам грамадзян Беларусі і Расіі.*

*Пасля прагледзеў афіцыйную беларускую прэсу. Даведаўся, што кепскага робіцца на свеце і як добра жывецца ў Беларусі. Аказваецца, віншаванні беларускага кіраўніка былі накіраваны не толькі дзеючаму лідару Расійскай Федэрацыі, але і будучаму кіраўніку гэтай жа Федэрацыі, і старшыню Савета Федэрацыі Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі, і старшыню Дзяржаўнай Думы Федэральнага Сходу Расійскай Федэрацыі, ды іншым палітычным дзеячам ад той жа федэрацыі. Усюды гучыць тая „федэрацыя" і „палітычныя дзеячы" ад яе. Толькі двум павіншаваным не дапалі прыстаўкі „федэрацыя": дзяржаўнаму сакратару Саюзнай дзяржавы, а таксама патрыярху Маскоўскаму і ўсяе Русі.*

*Узнікла адно пытанне: „З якіх часоў і для чаго патрыярха Маскоўскага і ўсяе Русі ўблыталі ў палітычныя дзеячы?". Можа для таго, каб словы „Расійская Федэрацыя" можна было замяніць паўсюдна на словы „Маскоўскаму і ўсяе Русі"? І будзе тады віншаванне прэзідэнту Маскоўскаму і ўсяе Русі. Гучыць прыгожа, і праўдзіва. Ці віншаванне старшыню Савета Маскоўскага і ўсяе Русі. І гэтак далей.*

*З такімі думкамі я адклаў газеты і палез у фэйсбук. І там убачыў фотаздымак, пад якім быў надпіс: „Прыгожа зачынім тэму першага красавіка добрым прыемным жартам". А на фотаздымку чорны кот, які глядзіць праз плот. А на плоце прыбітая шыльда з папераджальным надпісам: „Асцярожна, злы кот".*

*Настрой крыху падняўся ад міжвольнай усмешкі. „Асцярожна, злы кот". Штосьці ў гэтым ёсць. Надпіс падыходзіць і на дзень гумару, і на наступны. Падумалася: „У людзей як у людзей. Ім аднаго дня дурня ў год дастаткова. У нас жа першага красавіка, дзе нібыта трэба жартаваць і смяяцца, плаўна пераходзіць у Дзень яднання народаў Беларусі і Расіі, другога красавіка, дзе нібыта таксама трэба радавацца, хоць невядома чаму".*

*Задаў у фэйсбуку пытанне: „У які дзень нашым народам трэба смяяцца, а ў які плакаць? Ці ў абодва дні смяяцца?". Атрымаў адказ у стылі першага красавіка: „Друг друга бачыць здалёк". А адзін знаёмы адказаў на гэтае пытанне простым беларускім жартам: „Не ведаю, ці трэба радавацца, але смяяцца дакладна трэба. Бо жывём міла, як кот з сабакам".*

*Сапраўды. Пасля так званага аб'яднання, скандалаў паміж Беларуссю і Расіяй было як у ката з сабакам. І газавыя, і малочныя, і халера ведае якія. Адзіная ўзаемная любоў прасочваецца хіба толькі ў прызнанні выбараў адзін у другога. Бо тут інтарэсы супадаюць. А па-за гэтым ідзе жорсткае супрацьстаянне. Бо „федэрацыя" хоча стаць „усёй Руссю", а на „не ўсёй Русі" не жадаюць быць губернямі „федэрацыі". Проста хочуць пасяброўску дзяліць прыродныя багацці.*

*Ды вось „федэрацыя" пад ласкавае кацінае мурлыканне пра ўзаемную любоў пачала патрабаваць платы за сяброўства. Маўляў, раней мы вам за братнюю любоў давалі што вам трэба, а цяпер вы нам, калі ласка, давайце што трэба нам. І віншаванняў расійскіх палітычных дзеячаў з прыстаўкай „федэрацыя" ужо мала. Пара іх віншаваць з прыстаўкай „Московскому и всея Руси, и прочее, прочее, прочее…".*

*Самы час падумаць пра тое, што рабіць з гэтым святам, каб з віншаваннямі не патрапіць у няёмкае становішча. Можа ўвогуле адмяніць? Хопіць нам і першага красавіка пасмяяцца. І на ўсходнай мяжы, у дзень дурняў, да папежнага слупа прыбіць шыльду з папераджальным для ўсіх беларусаў надпісам: „Асцярожна, злы кот". Толькі вось памежны слуп, дзеля існавання свята другога красавіка, выкапалі і выкінулі.*

**Віктар САЗОНАЎ**



# Бязмежжа выключэння

*Было гэта на пачатку дзевяностых гадоў у Польшчы. Дыскусія, якая тады разгарэлася на тэму кшталту новай Рэчы Паспалітай была тым больш гарачая, чым больш людзі ўсведамлялі сабе, што ўжо не абмяжоўвае іх цэнзура. Цэнзура, калі б хтось не памятаў, выключала большасць грамадства з дыскурсу аб правах і абавязках грамадзян у адносінах да дзяржавы. Таму быў гэта час сапраўднага катарсісу, час папрокаў у крыўдзе і паказвання віноўнікаў. Ды быў гэта і час кампенсацыі. Бывала, што навырост. Хто гаварыў, таго чулі. Хто крычаў, той меў рацыю. Выключанымі з дыскусіі былі тыя, хто маўчаў. Некаторыя ў запале спрэчак забываліся на цноту прыстойнасці. Гучалі штораз мацнейшыя словы, штораз больш балючыя лаянкі. Прачнуліся старыя рэсэнтыменты, за імі паспяшылі дэманы шавінізму, нацыяналізму і паспалітай распаленасці. Нават СМІ паддаліся гэтай маніі палітычнай адкрытасці, рашаючыся на распаўсюджванне крайніх ідэй. Шкода, што спыніліся толькі на гэтым.*

*У перыяд ПНР у паўсюднай свядомасці не існавалі беларусы ці ўкраінцы, хаця ў ніводнай гміне не магло абысціся без ансамбля песні і танца ці абрадавых парапэатральных груп. Усе іх замялі пад шыльду народнай культуры, быццам не была іх рысай нацыянальная разнастайнасць. Таму да грамадскай дыспуты далучыліся г.зв. нацыянальныя меншасці, якія галасамі маладой, збунтаванай інтэлігенцыі пачалі заклікаць сваіх землякоў да выхаду са сканэнаў, у якіх зачыніла іх „камуна". Гаварылі пра культурнае выключэнне, дамагаліся грамадскай роўнасці. Таксама і гэтую дыскусію не закрылі канчатковымі высновамі. Для шмат якіх палякаў праяўленне гэтай няпольскай стыхіі было шокам. Раптам ключавая для перыяду ПНР нацыянальная адзінасць распалася на тысячы непасуючых адна да адной частак. Лініі падзелаў разбегліся ў хаатычную сетку антаганізмаў, часта са шматслоевай структурай. Хто быў праваслаўны, адразу знаходзіў каталіцкага праціўніка; хто называў сябе ліберэалам — сацыяліста. Прычым мала хто тады разумеў, чым па сутнасці з'яўляецца лібералізм і сацыялізм. Гэта ўсё вяло да напружанасці і непаразуменняў. Мой прыяцель родам з Баброўнік, з якім прасядзеў я ў супольнай парце пачатковую школу і ліцэй, праз пару гадоў раптам заявіў, што ён беларус, не паляк! А прытым сацыяліст. Пасля таго абярнуўся назад і адышоў без слова. Што ім кіравала? Баяўся, што ён адкінуць? Баяўся крытыкі? Да сёння я гэтага не разумею, хаця зноў сустракаемся на сяброўскія бяседы — ён польскі беларус і я — шматкультурны паляк. Аднак на тэму таго аддаленага ў часе здарэння не размаўляем. І можа тое і з'яўляецца прычынай, што на наша сяброўства кладзецца глыбокі цень. Ці цень адмаўлення? Ды ці тое адмаўленне датычыць толькі нас?*

*Адкрыўшы скрыню Пандоры, трэба лічыцца з паслядоўнасцямі. Праблемы, выкліканыя ў дзевяностых гадах, надалей брынюць. Паводле паліцыйных статыстык на Падляшшы — зямлі шмат якіх культур, прытулку талерантнасці і годнага суіснавання розных народаў — фіксуецца найбольшую экспансію крайніх поглядаў, або расісцкіх, або нацыяналістычных. Ад чаго мы адмовіліся? Ці малалетнія гуны не таму адзначаюць сваю прысутнасць шавіністычнымі знявагамі і фізічнай агрэсіяй, што мы выключылі іх з нашага разнастайнага ў этнічным і культурным плане грамадства. Праўда таксама, што выключэнне баліць.*

*Калісь, у час мілай бяседы на завяршэнне „Бязмежжа" пры ўдзеле аўтараў з Польшчы і Беларусі, меў і я адчуць выключэнне. Якраз вялі мы з Надзяй Артымовіч, Мірай Лукшай і Гандзяй Кандрацюк нейкія паднебныя размовы, калі падсеў да нас наш сябра Алег Латышонак. Дзяўчаты, якія да гэтага часу размаўлялі са мною па-польску, натуральна перайшлі на беларускую мову. З іх размовы я разумеў пятае праз дзесятае. Калі пачаў я распытваць пра нейкія незразумелыя для мяне пытанні, Алег звярнуўся да мяне з лагодным угаворам: „Ды дай нам паразмаўляць па-нашаму!" — „Ну так, — падумаў я не без збянтэжання. — Мы раўнапраўныя ўдзельнікі польска-беларускай бяседы. І Алег, які падсеў да нас, і дзяўчаты. Ды я ўжо не. Мяне выключылі". Ды ці толькі з супольнай размовы?*

**Міраслаў ГРЫКА**

**Вачыма еўрапейца**

# Інфа-шафа МЗС



*Як штогод бліжэй пачатку вясны міністр замежных спраў прадстаўляе Сейму інфармацыю пра асновы замежнай палітыкі Польшчы на бягучы год. Так было і ў гэты раз. Цяперашняга міністра Радаслава Сікорскага са сваёй сеймавай ложы ўважліва выслухалі прэзідэнт Браніслаў Камароўскі (суадказны за польскую замежную палітыку) ды замежны дыпламатычны корпус.*

*Сёлетняя інфармацыя міністра Сікорскага, у параўнанні да тых з мінулых гадоў, не ўспамінаючы пра інфармацыі міністраў папярэдніх урадаў, была адносна кароткай. Аж у некаторых момантах хацелася б падумаць, што міністр Сікорскі хоча намякуць: не па словах, а па чынах мяне пазнаеце. Шмат было затое думак філасофска-інтэлектуальнага характару. Амаль на самім пачатку міністр адзначыў:*

*— Паўтараю яшчэ раз: сучасная Польшча з'яўляецца найлепшай, якая ў нас была. Сваім заданнем як шэфа польскай дыпламатыі лічу такое вядзенне польскай замежнай палітыкі, каб яна значна спрычынілася да паляпшэння нашай бяспекі, росту заможнасці і сілы.*

*Вядома, у сваім выступленні спаслаўся ён на шмат матываў, у тым ліку звязаных з супрацоўніцтвам з наймацнейшымі — з Еўрасаюзам, між іншым з Нямеччынай і Францыяй ды ЗША. Не забыўся і аб слабейшых. Прыгадаў поспехі польскага прэзідэнцтва ў ЕС:*

*— Польскае прэзідэнцтва — незалежна ад занятасці Польшчы на поўдні — прадставіла прапанову для Усходу [гаворка тут пра Усходняе партнёрства, ахопліваючае еўрасаюзнае супрацоўніцтва з Арменіяй, Азербайджанам, Беларуссю, Малдовай і Грузіяй — М. Х.].*

*Зараз пасля спытаўся ў еўраскептыкаў:*

*— Ці ўяўляеце нашу ўсходнюю палітыку без Еўрасаюза? Ці мы былі б у змозе сфінансаваць такі праект як Усходняе партнёрства? Якраз на Усходзе больш выразна чым у іншым месцы відаць тое, аб чым пішуць акадэмічныя падручнікі еўрапейскай інтэграцыі: дзякуючы Еўрасаюзу польская сіла ўздзеяння шматкроць узмацняецца (...). У час прэзідэнцтва мы традыцыйна дзейнічалі дзеля стабільнага атачэння ЕС. Заадно паўднёвага, як і ўсходняга маштабу палітыкі суседства. Абодвум вектарам гэтай палітыкі будзе прыслужвацца запрапанаваны мною Еўрапейскі фонд для дэмакратыі. Мы атрымалі ўжо палітычную згоду на яго пуск, які можа наступіць ужо сёлета.*

*Вядома, я чакаў таго, што сёлета прагучыць з вуснаў міністра наконт адносін Польшчы з краінамі на ўсходзе (выключаючы з гэтага абшару, вядома, еўрасаюзныя прыбалтыйскія краіны). Прагучала:*

*— На Усходзе значна горш, чым нам хацелася б, ды значна лепш, чым бывала і магло б быць. Мусім разлічваць на эвалюцыйныя змены. Будзем прапанаваць — як Польшча і як Еўрасаюз — заахвочванні для далейшай трансфармацыі ў адказ на рэальныя трансфармацыйныя дзеянні — што ахоплівае прынцып „больш за больш". Мы хацелі б калісь сказаць словамі Яна Кяневіча аб нашых усходніх суседзях, што „ані тут Усход, ані Захад, а проста Еўропа. Еўропа з усходняга боку кантынента або Міжмор'е свабодных грамадзян вернутае праз вякі Еўропе".*

*Слухаючы гэтую частку выступлення Сікорскага, я чакаў, што ён успомніць аб Беларусі. Прыгадаў адным сказам карацейшым і адным больш развінутым:*

*— Беларусь, на жаль, упіраецца на тым, каб у стасунках з Еўропай рэалізаваць прынцып „менш за менш". Згодна з прапановай Дональда Туска на форуме саміту Усходняга партнёрства, мы падрыхтавалі прапанову супрацоўніцтва, якая чакае дня, калі спыняцца рэпрэсіі, а палітычная апазіцыя зможа адыгрываць належную ёй ролю.*

*Працягласць выказвання міністра наконт Беларусі, без сумненняў, абгрунтоўваецца ў сутнасным слаі гэтага пераказу.*

**Мацей ХАЛАДОЎСКІ**

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Беларускія патрыёты нашай зямлі

**У рамках дзейнасці Майстэрні гісторыі і культуры «Бельскі гостінэць» у мяшчанскім доме Музея малой айчыны ў Студзіводах адсвяткавалі Дзень Незалежнасці Беларусі, арганізуючы 24 сакавіка канферэнцыю «Людзі з Падляшша — творцы незалежнай Беларусі ў пачатку XX стагоддзя — Іван Краскоўскі з Дубіч-Царкоўных і Нестар Перавой з Кнаразоў». Сабраныя, сярод якіх былі госці з Рэспублікі Беларусь, паглядзелі фільм Міколы Ваўранюка «Беларусь. Дарога да незалежнасці» і мелі магчымасць паслухаць даклады віцэ-старшыні Беларускага гістарычнага таварыства і заадно працаўніка Дзяржаўнага архіва ў Беластоку Славаміра Іванюка і гісторыка са Студзіводскага музея Дарафея Фіёніка. Хаця артыкулы пра Івана Краскоўскага і Нестара Перавоя друкаваліся ўжо ў нашых часопісах, то ў час святкавання была добрая нагода ўспомніць гэтых вялікіх для нашых зямель беларусаў. У час спаткання можна было таксама даведацца аб іншых нашых патрыётах на Беласточчыне.**



З дакладам выступіў віцэ-старшыня Беларускага гістарычнага таварыства і заадно працаўнік Дзяржаўнага архіва ў Беластоку Славамір Іванюк

— Мінула ўжо 94 гады ад стварэння Беларускай Народнай Рэспублікі. У тым, што Беларусь выйшла на незалежнасць, мелі таксама ўдзел беларусы з Падляшша, якія ў гэты час у большасці былі ў бежанстве. Нашая інтэлігенцыя спачатку здабывала адукацыю ў царкоўна-прыхадскіх школах, а частка яе пасля на ўніверсітэтах. Адны з іх, так як Павел Гаворскі са Шчытоў, сын святара Льва Гаворскага, дбалі пра развіццё адукацыі і сельскай гаспадаркі на месцы, а іншыя, як Іван Краскоўскі, займаліся на эміграцыі. Нестар Перавой актыўна хадайнічаў, каб нашыя людзі маглі вярнуцца з бежанства дамоў, а пасля вяртання на радзіму працаваў у яе карысць на месцы, — сказаў Дарафей Фіёнік, адкрываючы канферэнцыю.

— У асяроддзі старога БАСу паявілася выказванне «Беларусь, гэта справа не для *менчакуў*». Мінула пад 100 гадоў ад нараджэння сучаснай Беларусі, а праблемы засталіся падобнымі. Беларусы з Беласточчыны, якія рэалізавалі ідэю Беларускай Народнай Рэспублікі, паўміралі маладымі людзьмі. Паўміралі таксама асобы, якія маглі б пераказаць больш падрабязныя інфармацыі наконт іх. Ніхто не напісаў манаграфіі пра беларускае грамадства Беласточчыны перыяду стварэння незалежнай Беларусі. Большасць беларусаў былі тады ў бежанстве, а структуры БНР сталі ствараца ў Бельскім павеце пасля вяртання нашых людзей з бежанства, — гаварыў гісторык Славамір Іванюк. — Цікавай кніжкай наконт гэтага перыяду з'яўляецца выданне «Беларуская Народная Рэспубліка 1918-1920» аўтарства Дароты Міхалюк.

Славамір Іванюк паінфармаваў, што ў Дзяржаўным архіве ў Маскве ўдалося яму знайсці інфармацыі наконт Бельшчыны перыяду пракламавання БНР.

— На з'езд беларусаў для выбару ўлад Гродзенскай управы Беларускай Народнай Рэспублікі, што адбыўся 14-15 снежня 1918 года ў Гродне, былі выбраны дэлегаты і з Бельскага павета, між іншым Сымон Якавюк з Дубін. На жаль, дэлегаты Бельскага павета не даехалі на з'езд, хутчэй за ўсё з-за дрэннага надвор'я, — расказваў Славамір Іванюк. Паінфармаваў ён, што ў гэтым перыядзе была адкрыта беларуская школа ў Грабаўцы, побач Дубіч-Царкоўных, дзе вучыла Вера Маслоўская-Матэйчык, што выводзілася з Агароднічак каля Беластока. У 1919 годзе дзейнічалі беларускія школы ў Локніцы, Орлі, Збучы. Павятовыя польскія ўлады не далі згоды на стварэнне беларускай школы ў Галадах.

— У пачатку дваццатых гадоў Вера Маслоўская-Матэйчык стала ствараць беларускую канспірацыю на Беласточчыне ў межах польскай дзяржавы, якая была падпарадкаваная ўраду БНР, што знаходзіўся ў Літве. У канспірацыі дзейнічала 200-300 чалавек, між іншым Герман Шыманюк з Грабаўца, які стварыў нават партызанскі атрад і арганізаваў баявыя дзеянні. Спалілі яны, між іншым, склад драўніны ў Белавежскай пушчы, бо лічылі, што гэта дабро беларускага народа і без яго згоды нельга драўніну вывозіць з лесу. Выходзіла тут нават газета на беларускай літаратурнай мове «Беларускі партызан». Можа друкавалася яна і ў Літве і прывозілася сюды, але Павел Шыманюк з Грабаўца гаварыў, што ў яго брата Германа Шыманюка была машынка, на якой можна было памнажаць друкаваную газету. У беларускай канспірацыі дзейнічалі, між іншым, жыхары Грабаўца, Сакоў, Залешанаў, Дубіч-Царкоўных, Градалёў, Москаўцаў, Новага Беразова, Вітава, ці Доўгага Броду. Напрыклад, у Градалях дзейнічаў Антон Лукашук, продак дырэктара БДК Сяргея Лукашука, ці ў Доўгім Бродзе нейкі Вапа, сваяк старшыні Беларускага саюза Яўгена Вапы. У верасні 1921 года адбыўся з'езд беларускіх дзеячаў у Празе, на які паехалі праз Літву Вера Маслоўская і Сымон Якавюк, — гаварыў Славамір Іванюк. Пасля гэтага канспірацыя была разбітая польскай паліцыяй і войскам, а частка яе членаў была арыштавана. Аднак Герману Шыманюку і яго бліжэйшым сябрам удалося ўцячы ажно на Літву.

— Удзельнікаў канспірацыі судзілі на г.зв. працэсе 45-ці ў Беластоку, дзе абвінавачвалі іх ва ўдзеле ў канспірацыі. Паставілі ім закіды, што змагаліся за незалежную дзяржаву пад уладай БНР, але большасць з іх прызналі невіноўнымі. Амаль усіх нашых беларускіх дзеячаў, якія ўцяклі ў савецкую Беларусь, расстралялі ў другой палове трыццатых гадоў, — удакладніў Славамір Іванюк.

Восенню 1922 года беларусы Беласточчыны прынялі таксама ўдзел у выбарах у Сейм і Сенат Рэчы Паспалітай.

— Беларускі выбарчы камітэт з Бельскага павета выступаў у выбарах у Сейм у адным блоку нацыянальных меншасцей з яўрэйскім камітэтам, бо якраз у выбарчай акрузе, якая ахоплівала Бельскі павет, не жыло многа беларусаў. На другім месцы на спіску за яўрэем балатаваўся Сымон Якавюк з Дубін і быў ён выбраны паслом Сейма Польшчы. У Сенат балатаваліся са спіска нацыянальных меншасцей Павел Катовіч і Павел Гаворскі (сын згаданага раней а. Льва Гаворскага са Шчытоў — А. М.), але абодва яны не былі выбраны, — расказваў Славамір Іванюк.

— Нестар Перавой з Кнаразоў, Іван Краскоўскі з Дубіч-Царкоўных, ці Ярaслаў Кастыцэвіч былі прыкладам нашай інтэлігенцыі. Так як Павел Гаворскі са Шчытоў былі равеснікамі Янкі Купалы, Якуба Коласа і дзейнічалі для дабра свайго народа, — гаварыў гісторык Дарафей Фіёнік. — Іван Краскоўскі быў сынам айца Ігната Краскоўскага, унукам айца Феафіла Краскоўскага і дваюрадным братам Паўла Гаворскага, сына айца Льва Гаворскага са Шчытоў. У пачатку XX стагоддзя вышэйшую свецкую адукацыю сярод нашага грамадства найчасцей здабывалі дзеці святароў, і яны вядомыя як людзі, што змагаліся для дабра нашага грамадства, а прыкладам гэтага не былі толькі Іван Краскоўскі, які атрымаў філалагічную адукацыю на Варшаўскім універсітэце, ці Павел Гаворскі, які здабываў адукацыю ў Лейпцыгу, але таксама іншыя нашыя дзеячы. Сялянскія дзеці мелі тады магчымасць здабыць падставовую адукацыю ў царкоўна-прыхадскіх школах. Багацейшыя працягвалі навуку далей. Павел Гаворскі вярнуўся на радзіму, каб адкрыць у Шчытах для мясцовага насельніцтва школу, бібліятэку і павышаць сельскагаспадарчую адукацыю сярод сялянства, а Іван Краскоўскі, ажаніўшыся з украінкай, жыў у Кіеве, каб пасля працаваць у карысць беларускай справы, працуючы выкладчыкам у Беларускай гімназіі ў Вільні. У канцы дваццатых гадоў пераехаў ён у БССР, але памёр на ссылцы ў Славакіі. Іван Краскоўскі быў палітыкам, педагогам і грамадскім дзеячам. Я ў прысутнасці дырэктара школы ў Дубічах-Царкоўных, мясцовага войта і святара прапанаваў Івана Краскоўскага выбраць патронам школы ў Дубічах. Думаю, што невыпадкова ў гміне Дубічы-Царкоўныя ажно 82% жыхароў у час папярэдняга перапісу назвала сябе беларусамі (яшчэ невядомыя вынікі апошняга перапісу на ўзроўні гмін — А. М.), бо ж Герман Шыманюк, Вера Маслоўская, Іван Краскоўскі пакінулі свой адбітак у свядомасці мясцовых людзей.

Хаця Нестар Перавой выводзіўся з сялянскай сям'і, таксама зрабіў вельмі многа для беларускага народа і свайго грамадства, перш за ўсё разам з іншымі беларускімі дзеячамі дапамагаючы бежанцам вярнуцца дамоў, бо не было зусім відавочным, што савецкія ўлады дазволяць бежанцам вярнуцца на радзіму.

— Калі б не такія нашыя дзеячы, як Нестар Перавой з Кнаразоў, многіх з нас не было б тут на Беласточчыне, бо нашыя бацькі засталіся б жыць далёка ад нашых зямель, — заявіў Дарафей Фіёнік. — Нестар Перавой належаў да Беларускай народнай грамады і быў нават сакратаром у час яе з'езда, праведзенага ў 1917 годзе. Жыў ён у Маскве і быў знаёмы з Янкам Купалам і Якубам Коласам. У час з'езда бежанцаў з Беларусі, праведзенага ў 1918 годзе, быў сакратаром, а яго красамоўнае выступленне ў час з'езда спрычынілася таксама да вяртання бежанцаў дамоў, бо бальшавікі спачатку намаўлялі нашых людзей заставацца жыць у Расіі.

Калі Нестар Перавой вярнуўся са сваімі землякамі ў Кнаразы, убачыў спаленую вёску.

Нестар Перавой працаваў тут на месцы як кіраўнік школьнага нагляду, а пасля купіў каля Масева маёнтак «Чало», дзе з сям'ёй вёў узорную гаспадарку. Належаў да Беларускай сялянска-работніцкай грамады, а пасля вайны, калі гэты маёнтак застаўся за мяжой, ізноў вярнуўся са сваёй сям'ёй у Кнаразы і пачаў абсталёўвацца ад пачатку. Працаваў настаўнікам у Зубаве і Кнаразах, а чытачам «Нівы» вядомы ён як актыўны карэспандэнт, які пісаў, між іншым, парады для земляробаў, раіў як займацца ў сельскай гаспадарцы. У гэтым годзе мы плануем надрукаваць у «Бельскім гостінці» *Залатую кнігу* пра вёску Кнаразы, напісаную на мясцовай беларускай гаворцы Нестарам Перавоем. Знаходзяцца ў ёй біяграфічныя вопісы і апісанні паасобных сем'яў у Кнаразах, — расказваў Дарафей Фіёнік.

Можна сказаць, што Нестар Перавой быў першым падляшскім этнографам, бо ў *Залатой кнізе* апісваў, між іншым, вясельныя абрады, — дадаў Тамаш Суліма са Студзіводскага музея.

## Рыбацкія пеўні

Ці ведаеце, што самы галасісты певень жыве ў нашай вёсцы Рыбакі на падворку ў Марыі Хлябіч. Раніцай, яшчэ да ўсходу сонца над вёскай, ён пачынае спяваць. Голас у яго трошкі хрыпаваты, быццам у яго хворае горла. Пачуўшы ягоны спеў, яго абавязкова падтрымлівае суседскі певень Зінкі Хлябіч. Потым пераклічка ідзе далей — да пеўня на падворку Данкі Бравінскай. І такі ланцужок спеваў праходзіць праз усю нашую вёску. Слухаючы пераклічку, рэдка бывае, калі нейкі певень падасць свой голас раней, чым прыйдзе ягоная чарга. У ранішняй цішыні нашай вёскі гэта добра чуваць.

Калі певень пракукарэкаў, а яго не падтрымалі суседнія пеўні, ён спявае такім незадаволеным, патрабавальным крыкам, што астатнім „спевакам" нічога не застаецца, як падпарадкавацца яму. Калі, слухаючы пераклічку рыбацкіх пеўняў, прыслухоўваешся да іх, з прыемнасцю ацэньваеш, у каго голас больш высокі, званчэйшы. У некага басавіты, у некаторых з хрыпатой, але ўсё ж такі ўсе рыбацкія тры пеўні на 22 хаты ў вёсцы старанна выконваюць сваю ролю ў ранішнім канцэрце. Хоць і раніца, яшчэ відаць зоркі на небе, але пеўні намагаюцца, каб разбудзіць усіх, калі пачне світаць. Ва ўсіх пеўняў чыстыя колеры: бела-чорныя, рыжаватыя — вельмі прыгожыя. Але, на мой погляд, найпрыгажэйшы на падворку ў Марыі Хлябіч. У гэтага пеўня вялікі чырвоны грэбень над галавой, залацістае доўгае пер'е вакол моцнай шыі. Шырокія грудзі, вялікія крылы розных адценняў, ад белага да жоўта-рыжаватага, ад залацістага да аранжавага ды карычневага. Прыгожы хвост — яго гонар. Калі ж яму трэба падаць голас, выцягвае шыю, становіцца ганарлівым і з-за гэтага яшчэ больш важным. Ці могуць куры быць без пеўня? Вядома, могуць. Але што гэта за куры? Ён сярод іх кавалер. Калі нешта здарылася з курыцай, а певень не можа нічым дапамагчы, то хоць голасам зверне ўвагу гаспадыні. З пеўнем адчуваецца парадак сярод курэй. Ён сапраўдны гаспадар на падворку.

Шкада, што ў Рыбаках, не такой ужо маленькай вёсцы, пеўняў штораз менш...

**Віктар БУРА**

## Дурманы-хуліганы

Гайнаўка прыгажэе з кожным годам. Гэта бачна ў любым куточку горада, у кожным мікраараёне. І вельмі добра, што адказныя за парадак установы дбаюць пра выгляд прыпушчанскага горада.

Аднак час ад часу заяўляюць пра сваю прысутнасць мясцовыя хуліганы, якія знішчаюць усё, што ім пападзе пад рукі. Здавалася, што не так даўно ўстаноўленая паветка на прыпынку гарадскога транспарту па вуліцы 3 Мая будзе служыць пасажырам доўга. Яна ж уся ў шкле, з прыгожымі лавачкамі і дашком, надзейна ахоўвае ад ветру, дажджу і снегу. Да таго стаіць яна ў бяспечным месцы — насупраць магістрата, на відоку ўсіх, нават паліцыі. Але гэта вандалам не перашкаджала выбіць шыбу ў сярэдняй частцы прыпынку.

Другую візітную картачку хуліганы пакінулі на дзіцячай гульнявой пляцоўцы па вул. Арміі Краёвай, 18 — насупраць жылога блока № 22. Гэтым разам ахвярай вандалаў сталі... дзіцячыя арэлі. Дурманы-хуліганы зламалі ў іх здаровую дошку. Што яны гэтым хочуць паказаць? Сваю бяскарнасць? **Мікіта ДРОЗД**

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

# Настаўнікі і конкурс «Роднае слова»



**У час цэнтральных элімінацый 41-га Дэкламатарскага конурсу «Роднае слова», што 28 сакавіка адбыліся ў Бельскім доме культуры, выступіла звыш ста дзесяці дэкламатараў, якім спадарожнічалі іх настаўнікі і бацькі. Настаўнікі беларускай мовы хацелі паслухаць не толькі сваіх вучняў, але таксама прыслухацца выступленням іншых дзетак і моладзі. Звярталі яны ўвагу на козыры самога конкурсу і выступаў іх падапечных перад вялікай публікай, гаварылі таксама пра недахопы дэкламатараў. Расказвалі, як доўга часам трэба працаваць з дзеткамі і моладдзю, каб тыя выправілі няправільнае вымаўленне, пазбягалі няправільных націскаў. Аднак вельмі важнай справай з'яўляецца падборка адпаведных тэкстаў для паасобных вучняў.**

— Добра, што нашыя дзеткі хочуць вучыцца беларускай мове і выступаць на беларускім конкурсе. Мой бацька вучыў мяне любові да традыцыі і ўсяго беларускага і я хачу гэта пераказаць сваім дзеткам. Стараюся, каб тэксты падыходзілі для вучняў, але таксама былі з нейкім глыбейшым пераказам, — заявіла былая настаўніца Вера Масайла з Гайнаўкі, якая, адышоўшы з працы ў прадшколлі, не пакінула займацца з дзеткамі на беларускай мове і рыхтуе іх да шматлікіх конкурсаў. На дэкламатарскі конкурс прывезла яна гайнаўскіх хлопца і дзяўчынку, якія не вучацца беларускай мове.

— Высокі ўзровень сённяшняга конкурсу. Асаблівае ўражанне выклікаюць наймалодшыя дэкламатары, ва ўзросце 5-6 гадоў. Выступаючы, дзеткі становяцца больш вопытнымі і адважнымі. Каб заахвоціць дзетак, гаворым ім, што ўсе яны на свой спосаб становяцца пераможцамі, а не толькі тыя, якія зоймуць прызавыя месцы. Асабліва ў выпадку меншых дзетак цікавая на свой спосаб дэкламацыя гэта ўжо перамога, — сказала настаўніца беларускай мовы з Комплексу школ у Ягуштове Раіса Ваўранюк. — Адным маім вучням падыходзяць тэксты вясёлыя, іншым — патрыятычныя. Трэба ведаць дзіця і яго магчымасці, каб падабраць яму адпаведны верш для дэкламавання.

Настаўнікі з Комплексу школ № 3 у Гайнаўцы Беата Кендысь і Людміла Грыгарук, так як і іншыя мае суразмоўцы, звярталі ўвагу, што складана падабраць новыя і цікавыя вершы, асабліва для старэйшых вучняў, каб тыя не паўтараліся і падыходзілі да тэмпераменту моладзі. Настаўніца беларускай мовы з Непублічнай падставовай школы ў Арэшкаве Ірэна Герасімюк гаварыла, што яшчэ больш складана падабраць пастаноўкі для конкурсу малых тэатральных форм і менавіта з-за недахопу новых пастановак некаторыя настаўнікі не рашаюцца рыхтаваць дзетак да тэатральнага конкурсу.

— А маім наймалодшым вучням найлепш атрымліваецца, калі яны дэкламуюць вершыкі пра звяркоў. Найстарэйшым вучням падабаюцца тэксты пра каханне, — заявіў настаўнік з бельскай «тройкі» Яраслаў Падолец.

— Вучні, якія прымаюць удзел у дэкламатарскім і іншых конкурсах, калі вернуцца ў школу, расказваюць аб гэтым сябрам і на свой спосаб становяцца важнымі. Дадатковае заангажаванне ў пазаўрочную дзейнасць робіць іх больш вартаснымі, — гаварыла настаўніца з нараўскай школы Ніна Абрамюк. — Я прапаную вучню верш для дэкламавання і даю, каб яшчэ прачытаў дома з бацькамі. Бывае, што вучань хоча выступіць са сваёй прапановай і тады мы супольна абмяркоўваем, які тэкст будзе лепшы. Вельмі важны добры кантакт вучня з настаўнікам і важна таксама, каб бацькоў прыцягнуць да пазаўрочнай працы з вучнямі, бо тады рэзультат гэтай работы лепшы і больш ахвотныя вучні займацца дадаткова з беларускім словам.

— Мае вучні перш за ўсё польскамоўныя і, калі я пачынаю рыхтаваць іх да конкурсу, адразу стараюся навучыць іх правільнаму вымаўленню, стараюся выправіць неправільнае польскае «ł», а правільна навучыць іх вымаўляць «л» пабеларуску. У тэксце для дэкламавання адразу правільна расстаўляю націскі, бо калі вучні пачнуць чытаць з няправільнымі націскамі, тады вельмі цяжка навучыць іх правільнага вымаўлення, — сказала настаўніца Падставовай школы № 3 у Гайнаўцы Марыя Крук.

— Намнога лягчэй працаваць з вясковымі вучнямі, якія хаця крыху ўмеюць размаўляць на мясцовай гаворцы і практычна ўсё разумеюць, калі гаворыцца да іх па-свойму. Яны амаль не робяць памылак з націскамі і ўмеюць правільна сказаць «л». З польскамоўнымі вучнямі трэба многа напрацавацца, каб дайсці да такога ўзроўню, — гаварыла настаўніца Ніна Абрамюк.

Калі я спытаў настаўнікаў дзе знаёміліся з правіламі правільнага дэкламавання, паявілася выказванне, што ў інтэрнэце шукалі яны інфармацыі як правільна дэкламаваць на польскай мове і гэтых прынцыпаў стараюцца трымацца ў час працы з вучнямі, калі рыхтуюць іх да конкурсу «Роднае слова». Нашыя настаўнікі многаму, што тычыцца дэкламацыі, навучыліся ў час шматгадовай педагагічнай працы, таксама слухаючы выступаў дзетак і моладзі ў час конкурсу «Роднае слова».

— Складана сказаць, што ў галоўным вырашае аб поспеху вучня на дэкламатарскім конкурсе. Напэўна вельмі важныя здольнасці вучня да ўмелай дэкламацыі і яго падрыхтоўка пад наглядам настаўніка, — гаварыла Марыя Крук.

Мае суразмоўцы звярталі ўвагу, што добра было б, каб арганізатары конкурсу «Роднае слова», ці нехта іншы наладзілі курсы па правільным дэкламаванні, каб не было сумненняў, якія крытэрыі самыя важныя ў час ацэнкі дэкламатараў.

— Добра было б, каб былі наладжаны курсы, у час якіх мы, настаўнікі, маглі б даведацца падрабязна аб прынцыпах правільнага дэкламавання і важнасці крытэрыяў, паводле якіх конкурсная камісія ацэньвае нашых вучняў. Мае вучні хацелі пераапрануцца ў спецыяльную вопратку і хаця я іх адмаўляла ад гэтага, то пасля пагадзілася на іх просьбу (2 дзяўчыны з Падставовай школы № 3 у Гайнаўцы выступілі ў адмысловай вопратцы). Частка вучняў у час конкурсу выконвае дадатковыя жэсты і мы не ведаем, ці камісія гэта ацэніць дадаткова, а можа гэта пашкодзіць у дэкламацыі, — гаварыла Марыя Крук.

— Я чытала ў інтэрнэце, што ў час дэкламацыі звяртаецца ўвага на культуру слова, на інтэрпрэтацыю твора, на правільнае вымаўленне, а на маю думку дадатковая вопратка і дадатковыя жэсты выступаючых не павінны мець уплыву на ацэнку конкурснай камісіі. Але мы не ведаем, як дадатковае заангажаванне вучняў будзе ацэненае. Што тычыцца курсаў па правілах дэкламавання, то я сама цікава была б такой прапанове, — сказала настаўніца са школы ў Арэшкаве Ірэна Герасімюк.

— Ацэньваючы вучняў мы перш за ўсё звяртаем увагу на правільную дэкламацыю, культуру слова, інтэрпрэтацыю твораў, а я, як мовавед, звяртаю асаблівую ўвагу на правільнае вымаўленне. Спецыяльная вопратка вучняў і дадатковыя жэсты не дапамогуць, але і не пашкодзяць выступаючым, маючы на ўвазе ацэньванне вучняў конкурснай камісіяй. Аднак прыемна глядзець, калі некаторыя вучні выступаюць у беларускай нацыянальнай вопратцы. Калі вопратка дапамагае вучням лепш выявіць іх дэкламатарскія ўмеласці, то няма перашкод, каб вучні выступалі пераапранутымі, — удакладніў старшыня конкурснай камісіі «Роднага слова» доктар Васіль Сегень.

Настаўнікі пахвалілі арганізатараў конкурсу за тое, што цэнтральныя элімінацыі пачаліся ў дзевяць гадзін, а не ў дзесяць, як было раней і таму ўдалося закончыць конкурс раней. Але паявіліся заўвагі наконт раённых элімінацый у Гайнаўцы.

— У гэтым годзе на раённых элімінацыях у Гайнаўцы выступіла ажно каля 150 удзельнікаў і мерапрыемства там вельмі зацягнулася. Калі Бельскі павет у час раённых элімінацый раздзелены на дзве акругі, трэба было б падзяліць і Гайнаўскі павет на дзве часткі. Можна ж было б раздзяліць Гайнаўскі павет на Гайнаўку і школы з іншых мясцовасцей, так як зрабілі ў Бельскім павеце або частку школ з нашай акругі падключыць да раённых элімінацый у Орлі, бо там выступае адносна мала ўдзельнікаў, — сказала настаўніца беларускай мовы з Комплексу школ у Чыжах Валянціна Андрасюк, дзе ўсе вучні, каля 130 асоб, ходзяць на заняткі беларускай мовы.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ

# Зоя з бусловай вёскі

**Зоя Майстровіч з вёскі Рудуты Арлянскай гміны ад часу, калі пайшла на пенсію, пачала пісаць вершы па-беларуску. Мае іх у сваіх сшытках больш за семсот. Некаторыя з іх ужо вядомыя чытачам і слухачам. Расказвае ў іх пра жыццё ў вёсцы і праміnanne.**



— Я пачала пісаць вершы ў свае 55 гадоў, — прызнаецца вядомая майстрыха-рукадзельніца. — Многа ў маіх вершах памылак — я так даўно вывучала беларускую мову ў школе ў Саках, што цяпер манастыр, каля Кляшчэль. Пайшла ў школу — польскай мовы не ведала. А беларускую мову добра ведала ад сваёй мамы, якая гаварыла толькі на чыстай беларускай мове. Мая мама з Гродзеншчыны, з вёскі Шчэчыцы Лунненскага сельсавета, на Мастоўшчыне. Я нарадзілася ў 1952 годзе ў вёсцы Тапаркі Кляшчэлеўскай гміны, ад 1970 года жыву ў Рудутах. Вершы пачала пісаць 9 сакавіка 2007 года, калі ўнучка папрасіла мяне дапамогі ў напісанні верша...

Спадарыня Зоя напісала тады з унучкай два вершы. Сям'і творы спадабаліся і папрасіла ў яе, каб Зоя напісала яшчэ, бо вершы склаліся ў яе прыгожыя. Пачала пісаць, але толькі для сябе. Першыя вершы складвала ноччу, спісвала іх на лістках. Пісала аб прыродзе, порах года, аб сваім жыцці — па-польску, па-беларуску і на сваёй гаворцы. У большасці, аднак, былі гэта вершы напісаны на матчынай мове.

— Калі мая мама памерла, у 1984 годзе, паехала я з дзецьмі ў Беларусь, завезла туды зямлі з магілы маёй мамы на магілу яе бацькоў. Пайшла я з дзецьмі на бераг ракі Нёман, што плыве каля самай вёскі Шчэчыцы, памыла рукі і ногі. Над Нёманам ляжаў вялікі камень. Я вельмі сумавала па сваёй маме і на тым месцы, ля каменя над Нёманам, на гэтай беларускай зямлі прысягнула, што гэтую частку маёй мамы захаваю — яе беларускую мову. Мая мама была для мяне ўзорам дабрыні, любові да нас, сваіх дзяцей, і людзей, якія яе атачалі. Чалавек можа часам нічога не захаваць ад сваіх бацькоў і продкаў, ды мову і традыцыі захоўвае. Я захавала мову сваёй мамы і татаву гаворку з вёскі Тапаркі. Я шчаслівая, што магу стрымаць клятву, якую дала над Нёманам летам 1984 года...

Зоя запісвае яшчэ ў асобных сшытках казкі і легенды, якія ведае ад сваіх блізкіх, або іх і сама выдумляе. Выступае перад дзяцьмі і моладдзю з аповедамі пра родную старонку.

— Мая вёска Тапаркі — яна блізка сэрцу мне. Я там нарадзілася, гаварыць сваёй мовы навучылася. Сколькі смеху там было, колькі песень там плыло! Салаўі мне там спявалі, сэрца-душу адкрывалі. Колькі песень там спявалі, колькі танцаў танцавалі! У святліцу там убягалі, і там польку танцавалі. Дружна нам было там жыці! Радасці той нам не забыці. Жыццё як кветка расцвітае і так хутка праміnae! — цешыцца вясновай парою аўтарка. — І пра ўлюбёных буслоў пісала. Пра прыроду, поры года, вясковае працавітае быццё, пра сваё жыццё. Праўда, цяпер менш пішу, чым у той першы год. Але бывае, што і два вершыкі за дзень складу, часам ноччу, хоць у ноч ужо менш устаю. Пасля сяду, перагляну, ці добра вершы ўдаліся, але мала іх там змяняю, таму што як яны ўкладуцца, дык да канца амаль зусім такімі і застаюцца. Бывае, што што-небудзь адыму, штосьці дадам. Пачытаю вершы, што за год, за два напісала. Неяк не магу іх перамяняць. Часам думаю, што і добра, што я іх запісала, — яны ўжо памятка. Я іх і сабе, і ўнукам пачытаю. Людзям не мушу чытаць, таму што там мае думы, там майго жыцця частка. Маю такое заняцце вечарам. Муж любіць глядзець тэлевізар, а я прыйду ў свой пакой, уключу радыё... Пасяваю калі трэба, паслухаю канцэрт пажаданняў... Люблю беларускія, польскія, рускія прыгожыя песні. Слухаю іх, часта і запісваю на магнітафон: калі словы харошыя, жыццёвыя, і мелодыя прыгожая, добра і паслухаць, і самому паспяваць, моладасць сваю прыгануць.

Вершы Зоі Майстровіч пачалі друкавацца — найперш у кнізе бацюшкі Рыгора Сасны і матушкі Антаніны, пасля ў „Літаратурных вечарынах" Арлянскай гміны, у „Ніве", чытала іх таксама ў перадачах на радыё, на сустрэчах з моладдзю ў цэнтры ў Шчытах, у гмінным асяродку культуры ў Орлі.

— Наш культурны цэнтр у Орлі паклапаціўся аб нас, вясковых людзях, што ад сябе саміх сталі пісаць. Ніхто нам не даваў парад, не намаўляў, каб тыя вершыкі пісаць. Я, як маладзейшая была, не мела часу, каб гэтым заняцца, бо ўсё былі нейкія турботы. Стала я пенсіянеркай — і пачала пісаць. Штосьці адкрылася ў душы. Бывала, еду ў поле, ці еду на сваю радзіму ў Тапаркі, гляну на тыя палі, што зарастаюць хваінаю. Запісваю, калі ехала, прыехала дахаты і напісала вершык. „Там дзе шумелі жытнёвыя палі, хвайнякамі цяпер пазарасталі. Няма каму цяпер працаваць на зямлі...". Пасля напісала верш пра дзікую грушу, як „каралеву зямлі гэтай". Пішу і вершы пра вясковае жыццё, скажам, пра выбары. Жыццё ідзе ўперад, усё мяняецца. Пішу пра тое, што чую, што бачу сваім сэрцам і вачыма. Унукам штосьці вясялейшае напішу: напісала я пра салаўякума, пра жабу... Бываюць вершы мае сумныя, бо і жыццё на нашых вёсках сумнаватае: дзяцей, моладзі няма, мы тут па 60, 80 гадоў, некаторыя да дзевяноста падажывалі. Чалавек нямоцны робіцца Не пабяжыш на вяселле, хрысціны, забаву. Калі нават якое вяселле ёсць, няма яго ў вёсцы: цяпер не гонар вяселле ў вёсцы рабіць! Цяпер што на вёсцы — пахаванні адны. У рамантаванай святліцы ёсць... дзе абедню адправіць, якое сабранне зрабіць. Нават у тую святліцу кухня прыязджае, бо няма і каму гатавіць. Усе вёскі так дажыліся. Цяпер, калі б я выйшла на вуліцу і заспявала, то падумалі б, што напілася! Гаспадаркі цяпер вялікай не маю, жыву спакойным, ціхім днём. Жывем успамінамі, як усе старыя.

Цешаць і зварухваюць выезды народных умельцаў па ўсёй Польшчы.

— Была я між іншым у Біскупіне, Шрэняве — пабачыла свету крыху, наведала музеі. Я рада, што вучу моладзь сваім умельствам. Раблю саламяныя каробкі... Пішу як умею, не так, як вучоныя ўмеюць. Пішу па-свойму.

А буслы злятаюцца і ў Рудуты. Хоць кажуць, што менш іх чым у мінулых гадах.

— Яны ўпадабалі нашу вёску, бо многа ў нас лугоў, жабаў, цёплая вада на балотах. Шмат ежы маюць. Яны вельмі добра адчуваюць сябе ў нас. Прылятаюць штовясны. Маем у нас дванаццаць буслянак. Любяць буслы нашу вёску Рудуты, а мы любім іх.

Зоя МАЙСТРОВІЧ

## Там дзе былі палі

Там дзе шумелі жытнёвыя палі,
Хвайнякі цяпер параслі.
Няма каму працаваць на зямлі.
Маладыя людзі ў горад адышлі.

А калісь іх дзяды і бацькі
За пядзю зямлі спрачаліся.
Адзін аднаго клялі,
Вечнымі вогарамі ставаліся.

Карову даілі і паважалі —
Яна карміліцай сям'і была.
Зямлю сваю родную шанавалі,
А дзецям непатрэбна яна!

Дык шуміце, елкі, бярозы,
Пошум песні нясецца ад вас па зямлі.
Зараслі вы нашы межы, палоскі, барозны,
Мы зямлю сваю кінулі, у горад пайшлі.

## Куды ляцяць гусі

Куды ляцяць шэрыя гусі?
Ключы іх з крыкам нясуцца.
Гэта на ўсход ляцяць яны,
Каб на захад ключом вярнуцца.

Дзе месца выберуць яны,
Дзе гнёзды будуць віці?
Хачу, каб яны ў нас увесь час былі
З намі былі іхнія дзеці.

Так як буслы ляцяць да нас
І тут жывуць у нас летам.
Мы іх чакаем кожную вясну,
Цешымся з іхніх дзетак.

Радуемся, як яны растуць,
Як вучацца маленькімі лятаць,
А калі назад ад нас палятуць,
Будзем іх дома чакаць.

## Клопаты Саўлян

Саўляны знаходзяцца на перыферыі Супрасльскай гміны. Мабыць, таму ўлады гэтай гміны яе абмінаюць. Ні бурмістр, ні радны не прыязджаюць сюды на вясковыя сходы. Радны з'яўляецца жыхарам суседняй вёскі Каракулі. У Саўляны праз паўтара года не даехаў, а павінен. Чаму такі абыякавы да выбарцаў з Саўлян?

У Саўлянах няма прадуктовай крамы ні паштовага аддзялення або хаця б агенцтва. Была паштовая скрынка, ды і тую забралі. З гэтым апошнім перастараліся. Згодна распараджэнню № 105/2012 старшыні праўлення Польскай пошты С.А. ад 12 кастрычніка 2010 года ў справе „Instrukcji o nadawczych skrzynkach odbiorczych w zakresie ich rozmieszczenia, ewidencji, opróżniania i kontroli", „на вясковых тэрыторыях у кожнай вясковай мясцовасці (напр. вёска, асада, калёнія) налічваючай больш за 300 жыхароў, павінна быць усталяваная прынамсі адна паштовая скрынка". Вёска Саўляны налічвае 320 жыхароў. Скрынку забралі восенню мінулага года. Ды ж гэта нязгодна з інструкцыяй. Віна на баку руплівой, начальніка пошты ў Супраслі. Такіх хібаў ёсць больш і я зноў наведваюся да намесніка дырэктара Раёна сеткі Польскай пошты ў Беластоку Францішка Гэруда. Як мне вядома, ён спрычыніўся да таго, што ў Падляшскім ваяводстве ліквідавалі больш дзвюх тысяч чырвоных паштовых скрынак. Быццам бы яны ўжо нікому непатрэбныя. У пачатку гэтага года загаварылі-зашумелі, што будзе больш курсаў аўтобусаў Беластоцкай гарадской камунікацыі (БГК). Сабралі пару соцень подпісаў на петыцыі да гмінных улад, каб у Саўляны пачало ездзіць больш аўтобусаў. Дадам, што саўляне ў гмінную Супрасль вымушаны ездзіць цераз... Беласток! Вось табе выгада! Найгорш з камунікацыяй у суботу і ў нядзелю. Выехаць аўтобусам можна раніцай, а вярнуцца а гадзіне 15! Або ідзі пехатой 1,5 км ад былой цяпліцы па вуліцы 27 Ліпеня. Быў ж абяцанні ўлад БГК, што дадуць больш аўтобусаў, калі пачне дзейнічаць гарадскі могільнік у Каракулях. Могільнік ёсць. І капліцу на ім пабудавалі. І нябожчыкаў усё больш і больш прывозяць. Шкода толькі, што БГК пра сваё абяцанне забылася. Варта дадаць, што ў тыя Каракулі ездзяць праз Саўляны і жыхары гэтай вёскі мелі б больш курсаў аўтобусаў БГК.

## Найгоршы прыпынак

У Беластоку ёсць вуліцы, скверыкі і аўтобусныя прыпынкі, якія рамантуюць ды аднаўляюць і з гэтым аж перабольшваюць. Але ёсць і занядбаныя. Прызабытая мініпачакальня знаходзіцца на аўтобусным прыпынку гарадской камунікацыі ў Беластоку ў канцы вуліцы 27 Ліпеня. Горшай ад яе не знойдзеце.

Гэтая пачакальня зруйнаваная. У ёй павыбівалі шыбы. Дах дзіравы. У дождж пасажырам на галаву цячэ вада, а з бакоў даймаюць скразнякі. Хуліганы паламалі лавачкі. Ёсць сметніца, ды і яна разбітая. Вадзіцелі аўтобусаў маршрута № 13 бачаць, якая пачакальня ў канцы горада каля былой цяпліцы, але сваіх улад Беластоцкай гарадской камунікацыі не інфармуюць.

(яц)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.iig.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Захапілі старэйшыя вучні

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

У час цэнтральных элімінацый 41-га Дэкламатарскага конкурсу для дзяцей і моладзі на беларускай мове «Роднае слова», якія 28 сакавіка арганізавала ў Бельскім доме культуры Таварыства беларускай культуры, высокім узроўнем выступленняў захапілі публіку гімназісты і старэйшыя вучні падставовых школ. Дашкольнікі і малодшыя вучні ў сваю чаргу зацікавілі сабраных сваімі шчырымі і адважнымі дэкламацыямі. Сярод звыш 110 дэкламатараў найбольш было дзетак з класаў I-III (каля 50 асоб), а найменш гімназістаў (16 чалавек).

— Узровень дэкламацыі высокі, асабліва сярод гімназістаў. Тое, што ў іх катэгорыі мы прысвоілі ажно пяць раўнапраўных першых месцаў паказвае, што многа вучняў выступіла на высокім узроўні (ажно дзесяць на шаснаццаць выступаючых гімназістаў атрымалі пераможныя месцы — А. М.), — заявіў, падводзячы вынікі конкурсу, старшыня камісіі доктар Васіль Сегень. — Цікава было паслухаць выступаў на беларускай мове дашкольнікаў і цешыць, што каля пяцідзесяці вучняў выступіла з класаў I-III, але тут узровень дэкламацыі быў ужо розны. Наогул рэпертуар быў трапна падабраны да магчымасцей вучняў, а я, як моваевед, звяртаю вялікую ўвагу на моўныя памылкі і з гэтым таксама было па-рознаму. Напрыклад, вучні з Непублічнай школы св. св. Кірылы і Мяфодзія з Беластока надзвычай правільна вымаўлялі «л». Відаць, што нехта з імі моцна папрацаваў у гэтым плане.

Здаўна ў конкурсе перамагаюць сёстры Маліш з невялікай школы ў Ягуштове і паказваюць, што вучні з невялікіх школ таксама могуць дабівацца поспехаў на працягу многіх гадоў.

— Мы стараемся выступіць перад публікай як найлепш і рашаемся на даўжэйшую дэкламацыю. Лічым, што каб стаць пераможцамі трэба гаварыць па-акцёрску і цікава, але без здольнасцей цяжка гэтага дабіцца, — заявілі сёстры Дар'я і Магдалена Маліш з ягуштоўскай школы. — Мы любім дэкламаваць і ад першых класаў падставовай школы ахвотна тут выступаем. Сяброў цікавых тут спатыкаем і прыемна праводзім час.

— Пазнаёміліся мы ўжо з вучаніцамі з бельскай «тройкі» і слухаем выступленні іншых вучняў, — гаварылі Караліна Кардзюкевіч і Магдалена Зімкевіч, таксама са школы ў Ягуштове.

— Файна ёсць і з цікавымі тэкстамі мы выступілі, — сказалі Даміініка Пуц і Мартына Панасюк з Гайнаўкі.

— Я выступаю ад першых класаў падставовай школы. Займала першае, другое і трэція месцы на цэнтральных элімінацыях. Мне раней вершы падбіраў мой дзядуля Ян Гаўрылюк, бо і сам ён вершыкі пісаў. Цяпер я вучаніца Гайнаўскай белгімназіі і ўжо настаўніца дапамагала мне падабраць тэкст для дэкламавання, — гаварыла Магдалена Гаўрылюк з Гайнаўкі.

— Я лічу, што можна цікава чытаць вершы, у якіх ёсць многа знакаў прыпынку, бо тады можна прытрымлівацца і паказваць свае дэкламатарскія ўмеласці, — гаварыў Караль Лукша з нарваўскай школы, а Лукаш Філіпюк і Рыгор Зінкевіч з бельскай «тройкі» сказалі, што можна ўдала выступіць з рознымі тэкстамі, але трэба іх палюбіць. Калі настаўнік запрапануе цікавы верш, а ён для вучня не да спадобы, то цяжка тады дабіцца поспеху ў конкурсе.



Дар'я Маліш з КШ у Ягуштове


Даміініка Пуц з Падставовай школы № 3 у Гайнаўцы


Максім Фіёнік з бельскай «тройкі»



Магдалена Гаўрылюк з Гайнаўскай белгімназіі



Якуб Андрацкі з Гімназіі ў Саколцы

Поспехаў у час сёлетняга спаборніцтва, разам з вылучэннямі, дабілася ажно пад палову выступаючых. Першыя месцы сярод дашкольнікаў занялі Марыя Пякарская (Прадшколле № 14 у Беластоку) і Барташ Яканюк (Прадшколле № 3 у Гайнаўцы), на другіх месцах апынуліся Беата Спас (Прадшколле № 14 у Беластоку) і Магдалена Ігнатовіч (Непублічнае прадшколле № 1 у Бельску-Падляшскім), а трэція месцы былі прызначаны Вікторыі Паплінскай (КШ з ДНБМ у Орлі), Даміініцы Несцярук (Прадшколле № 2 у Гайнаўцы) і Маі Засім (Вясковы дом культуры ў Рыбалах). Гран-пры ў катэгорыі класаў I-III атрымала Аляксандра Салавянюк (Непублічная школа св. св. Кірылы і Мяфодзія ў Беластоку), на першых месцах апынуліся Дар'я Місеюк (КШ № 3 у Гайнаўцы), Ізабеля Карчэўская (КШ у Чыжах) і Аляксандра Пэткаў (бельская «тройка»), другія месцы занялі Тамаш Мусюк (НШ св. св. Кірылы і Мяфодзія), Магдалена Галёнка (КШ у Нарве), Давід Дзікоўскі (бельская «тройка») і Марыя Савіцкая (НШ св. св. Кірылы і Мяфодзія), а трэція месцы прыдзялілі Ільі Фіёніку (бельская «тройка»), Зузанне Бакер (НШ св. св. Кірылы і Мяфодзія), Міхасю Варановічу (Непублічная школа ў Залуках), Магдалене Андраюк (Рыбалы) і Магдалене Мішчук (Непублічная школа ў Арэшкаве). Сярод вучняў класаў IV-VI Гран-пры камісія прысвоіла Магдалене Маліш (КШ у Ягуштове), першыя месцы занялі Кацпар Кэчынскі (КШ № 3 у Гайнаўцы), Даміініка Пуц (ПШ № 3 у Гайнаўцы) і Максім Фіёнік (бельская «тройка»), другія месцы прызначылі Арыядне Бакер (НШ св. св. Кірылы і Мяфодзія), Юстыне Марчук (бельская «тройка») і Якубу Юргелю (Рыбалы), а на трэціх месцах апынуліся Матэвуш Гаўрылюк (Гайнаўскі дом культуры), Аляксандра Буслоўская (КШ № 3 у Гайнаўцы) і Лукаш Філіпюк (бельская «тройка»). У катэгорыі гімназістаў першыя месцы занялі Якуб Андрацкі (Гімназія ў Саколцы), Павел Засім (КШ у Нараўцы), Магдалена Гаўрылюк (Гайнаўская белгімназія), Дар'я Маліш (КШ у Ягуштове) і Іаанна Марчук (бельская «тройка»), на другіх месцах апынуліся Агнешка Ходак (Гайнаўская белгімназія), Эвеліна Добаш (КШ з ДНБМ у Орлі) і Хрыстафор Стадніцкі (бельская «тройка»), а трэція месцы занялі Іаанна Нявінская (бельская «тройка») і Караль Лукша (КШ у Нарве).

# Святы з Віктарам Шведам

У 87-годдзе з дня нараджэння Віктар Швед прызнаўся:

— На першым месцы ў мяне творчасць для дзяцей.

Для чытачоў „Зоркі” гэта зразумела. Мала якая газета можа яшчэ пахваліцца такім грунтоўным сяброўствам, якому больш за паўвеку. Нягледзячы на час, Віктар Швед — паэт вечна малады. Яго вершы любяць усё новыя пакаленні дзяцей. У доказ слоў распавядзем вам пра цудоўную вечарыну ў беластоцкім „Склепе з культурай”, які дзейнічае пры ПШ № 4 у Беластоку. Яе душой былі вучні чацвёртага класа, якія са сваёй настаўніцай Алінай Ваўранюк падрыхтавалі спектакль „Вучыся, вучыся, вучыся!”. Пастаноўка пабудаваная на аснове вершаў са зборнікаў „Вясёлка” ды „Смяшынкі”. Дзякуючы тэатральным прыёмам — тут выступілі элементы класічнага і лялечнага тэатра, пантамімы і дыдактычнай гульні — вершы напаміналі бліскучыя феерверкі! Кожны твор расквятляў інтэлігентны гумар, які з адчуваннем дабывалі з паэтычных радкоў дзеці. Пасля кожнага верша ў зале ўспыхаў спантанны смех, грымелі воплескі. Дзяўчаткі, якія ігралі маленькіх гарэзаў ды інтэлігентных арыгінальных герояў, паўнасцю ўвасабляліся ў сваіх літаратурных герояў. Для публікі цікава было яшчэ паглядзець „на сябе”, паколькі дзіцячы свет у вершах Віктара Шведа заўсёды перакліканецца з мудрасцю і паводзінамі старых — бацькоў, настаўнікаў, аўтарытэтаў.

Трэба дадаць, што спектакль „Вучыся, вучыся, вучыся!” таксама шматгадовы. Яго, пры некаторых праўках, выконвае ўжо трэцяя змена выхаванцаў Аліны Ваўранюк.

На заканчэнне ўсе акцёры атрымалі „Вясёлку” з аўтографам Віктара Шведа і памятны здымак. Згаданы спектакль быў пачаткам сустрэчы аб’яднання АБ-БА з цыкла „Пагаворым пра...”. Прысутныя, якія запоўнілі ўсе месцы ў зале, паглядзелі таксама фільм пра Віктара Шведа аўтарства Міколы Ваўранюка і новую фотапрэзентацыю Вальдэмара Квяткоўскага. На здымках цудоўна адлюстраваўся свежы, веснавы, жыццярадасны настрой, сугучны аптымістычнаму характару аўтара. Сам паэт таксама не застаўся ў даўгу і прачытаў свае новыя і старыя вершы. А ўсё гэта адбылося 23 сакавіка, у 87 гадавіну з дня нараджэння Віктара Шведа. На канец паэт прачытаў верш пра 25 Сакавіка, які настроіў да сёлетняга святкавання Дня Волі, дзе дзеткі і моладзь часта чыталі і спявалі песні на словы паэта. Апошняе супадзенне атрымалася непланавана і выпадкова.

Фота Ганны КАНДРАЦЮК

Жыве вечна малады Віктар Швед!

**ЗОРКА**

# Музыка з кайфам

## Тырлі-тырлі, кле-кле



www.flickr.com/photos/andrej_chudy/

Разам з надыходам вясны не толькі пачынае зелянець наваколле, не толькі скідаем цёплыя паліто, але заўважна спявае больш птушак. З пункту гледжання чалавека зацікаўленага музыкай гэта, мабыць, не вельмі істотная з’ява, бо птушкі цікавейшыя ў прыродзе, чым на плёнцы, дыску ці ў камп’ютары. Затое сотні-тысячы птушак заставаюць кампазітараў пісаць музыку, якая мае прыводзіць на думку птушыныя галасы. Гукапераймане ў выпадку галасоў птушак не мае, аднак, такога значэння для аўтараў тэксту ці музыкі як сімвалы, якія абазначаюць птушак, ці асацыююцца з імі.

Самымі папулярнымі гатункамі ў нашай культуры з’яўляюцца буслы, салаўі, зязюлі ці ластаўкі. Першыя, як сімвалічны элемент краявіду, зашмат адлюстраванняў у музыцы не маюць. Хаця, як у выпадку ластаўкі, бусел можа быць птушкай-сімвалам змены, якая нясе з сабою нейкія зрухі, напрыклад, у прыродзе. Буслом у сучаснай музыцы, не ўлічваючы народнай творчасці, зашмат артыстаў не займаецца. Узяўся Андрэй Хадановіч, але ўсё ж такі ў яго выкананнях адчуваецца літаратар, якому захацелася спяваць, а не нязломны мастак гукаў. Ёсць яшчэ рэч, якая адрознівае буслоў ад ластавак: астатнія прыносяць кепскае надвор’е, калі буслы нясуць на крылах вясну. Дождж бывае патрэбным, аднак часам гаспадарцы прыносіць і катастрофу, таму кожны раз слухаючы песню „Ластаўка” гурту „Новае неба”, пішу сабе сама розныя сцэнарыі, вясёлыя і вельмі сумныя.

Салавей у літаратуры лічыцца птушкай, якая мае самы прыгожы голас. Ці гэта так? Падпытайце ў арнітолагаў, пэўна з’явяцца абсалютна розныя меркаванні. У такіх справах густ і слых маюць першараднае значэнне. Сімвал аднак застаецца сімвалам, таму няма што дзівавацца, калі чарговы выканаўца спявае пра салаўя. Я асабіста прапаную паслухаць у гэтым выпадку „Тройцу”.

Кожны выканаўца музыкі фольк раней ці пазней праспявае пра птушак, бо яны ж не толькі кволыя і прыгожыя, а яшчэ варожаць, напрыклад, пра багацце. Ці на шчасце, ці з-за прыгажосці „Folk-Roll” і Наста Някрасава свой дэбютнік закрываюць „Зязюляй”.

А калі птушка мае павесяліць, дык толькі ў рытмах з альбомаў Алеся Камоцкага. Радасная басанова выносіць птушак у паветра, а нам падказвае, што гэта сімвал свабоды!

**i_basovka@o2.pl**

# Конкурс пра вясну (14-15)

Прывітанне, сябры! У нас працяг тэматычнага конкурсу, звязанага з перыядам вясны. Разам з адказамі, калі ласка, пазначце нумар конкурсу.

1. Назва месяца красавік выводзіцца:
   *а) ад чырвоных крашанак,*
   *б) ад кветак-красак,*
   *в) ад „краснай” суботы перад Вялікаднем.*
2. Як у народзе называецца пасляввелікодны святочны тыдзень?
   *а) Вясновыя святкі,*
   *б) Светлы тыдзень,*
   *в) Свята ручаёў і дрэў.*
3. У час Вялікадня на Сакольшчыне спраўляюць народны песенна-пажадальны валачобны абрад, які напамінае калядаванне. Як ён называецца?
   *а) канапелькі,*
   *б) гайкі,*
   *в) садочкі.*
4. Як завуцца велікодныя падарункі, якія прыносяць хросныя бацькі дзеткам?
   *а) велікодныя яйкі,*
   *б) валачобнае,*
   *в) святочны сюрпрыз.*

Адказы дасылайце да 15 красавіка 2012 г. (найлепш па электроннай пошце на адрас „Зоркі”). Тут разыграем цікавыя ўзнагароды: беларускія кніжкі, CD і гульні.

Рашэнне конкурсу № 11: У старажытнасці нашыя продкі Новы год адзначалі 25 сакавіка; герб Беларусі, які ўшаноўваюць беларусы ў вольным свеце — Пагоня; аўтар праекта сцяга БНР, абвешчанай у Мінску 25 сакавіка 1918 г. — Клаўдзій Дуж-Душэўскі; 25 сакавіка Бельскі белліцэй упрыгожвае свой будынак бел-чырвона-белымі сцягамі.

Сярод дасланых адказаў, на жаль, не было правільных рашэнняў. Узнагароду (за актыўнасць), кніжку з падляшскімі дзіцячымі вусна-паэтычнымі творамі *Як выскочыў воробєй*, атрымае Марцін Авярчук з Арэшкава. Віншуем!

Узнагароду падарыў мастак Міраслаў Здрайкоўскі.

**ЗОРКА**

# Польска-беларуская крыжаванка № 15

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

Адказ на крыжаванку № 11:

Дым, Марс, малы, шаман, пара, таз, пералаз, параход, ара, удача, брат, ар, лад, так, гід, сок, бот, намёк, боты. Тэма, паша, блін, лаз, парада, дым, перад, апарат, манера, ток, рахунак, паход, асалода, бо, рад, чарот, сказ, дар, ты.

Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі **Эва Саковіч, Рафал Марчук, Кася Кічкайла, Паўліна Анішчук** з Нараўкі, **Патрыцыя Міхальчук, Магдаліна Навіцкая** з Бельска-Падляшскага, **Моніка Раманюк, Маргарыта Галёнка, Войтэк Куптэль** з Арэшкава, **Вікторыя Лукашук** з Нарвы. Віншуем!

| | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | Chatka / Norka | | | | |
| | Waga | Hełm | Bank | | | Chleb | Bez-senność | |
| | Znaczek | But / Mysz | | | | As | | |
| | Szydło | | | | | | Akar-deon | |
| Szynka | | | | | | Bo | | |
| | | | | | Tan / Mi | | | |
| Szyszka | | Obierki | | | | Jan | | |
| | | | | | | | | |

Іаанна ЧАБАН

# Велікапосныя дні ў Крушынянах

Мае сустрэчы ў Марыяй Кулакоўскай з Крушынян заўсёды вельмі насычаныя. Супольна праведзены час мінае вокамгненна. Спадарыня Марыя не толькі дзеліцца багатымі ў захапляючыя дэталі расповедамі пра даўнія традыцыі. Яна таксама ахвотна і прыгожа спявае, дзеліцца ведамі пра свае рукадзельнае майстэрства, яна і чытачка беларускай літаратуры даступнай у маёй бібліятэцы.

Дэталёвыя расказы Марыі Кулакоўскай з Крушынян пра міжваенныя будні зрадзілі ўва мне зацікаўленне, між іншым, тагачаснай модай. Таму на чарговую сустрэчу я ўзяла мяшок карычневай ніткі, з якой спадарыня Марыя абяцала звязаць мне вельмі папулярную ў міжваенны час трыкатажную сукенку.

Пані Марыя запрапанавала сесці за кухонны стол, які я зараз заваліла сваімі прычындаламі, у тым ліку і мяшком з воўнай. „Напэўна змагу пачаць работу, але ж ці я дажыву да яе завяршэння?” — задумалася пані Марыя. Усё ж узяла мяшок з ніткамі і падрабязна яго разгледзела. Здымаючы з мяне мерку са смехам і жартам — азнакай надзеі на лепшае, дадала: „Дзіця, а колькі ж тут цябе ёсць?”.

Спадарыня Марыя належыць да вельмі рэдкай сёння катэгорыі людзей, якія хвіліны без справы не вытрымаюць. Еўныя стомленыя работай на прутках рукі адпачываюць у час чытання беларускіх кніжак з маёй бібліятэкі. Найбольш даспадобы быў ёй той Шаўчэнкаўскі „Кабзар” у перакладзе Янкі Купалы і Якуба Коласа.

„Ты шукаеш старых песень, а бачыла, колькі іх тут ёсць?”. Адкрыўшы „Кабзар” на раней заложанай старонцы, зацягнула цудоўныя ўкраінскія мелодыі. Праўду казаўшы, я ніколі не думала ўключаць Шаўчэнку ў рэпертуар „Зараніцы”, але новая ідэя, падсунутая пані Марыяй, здалася мне вартай увагі. Спадарыня Марыя, прыкмецільшы пасярод раскладзеных на кухонным стале маіх рэчаў дыктафон з нататнікам, спыталася: „А пра што дзісь будзям гаварыць?” Даведаўшыся, што гэта будуць успаміны пра велікапосныя дні, пачала:

— У пост вясковыя хаты замяняліся ў ткацкія станкі. Кожная баба ставіла свае кросны і поўнасцю гэтай надзвычай важнай справе аддавалася. Найцяжэй было снаваць і навіваць — гэтага не была ў змозе выканаць адна. Калі не было памочніка ў хаце, то суседкі адна да адной хадзілі. Працавалі ў тры: адна трымала аснову, другая круціла, а трэцяя пільнавала, каб аснова роўна ішла на навой. Лён кідалі ў берда, мералі яго на шырыню навоя, каб аснова роўненька лягала, а потым акуратна сходзіла. Майстэрства праяўлялася не так у самым тканні, як у яго завяршэнні: трэба было так даткаць, каб брыдкія канцы не заставаліся. Вельмі далікатная, тугенькая была гэтая работа, а колькі ж пры ёй цярплівасці патрабавалася! У той час вельмі папулярнай была пагаворка „Каб не затыкі і не датыкі, то і качка была б ткачка”.

Вялікі пост багаты не толькі ў адказную жаночую працу пры кроснах, але і народныя павер’і і абрады. Дзень святых Сарака мучанікаў севасційскіх, званы тут „саракамі”, вольны ад працы, жыхары Крушынян праводзілі ў пошуках марозу ў трасках. Усе казалі: „Як на сараке мароз, то шчэ сорак дней марозу будзе”.

На Благавешчанне таксама ніхто не працаваў. „Яно такое вялікае свята, што маўлялі: „пціца гнязда не ўёт, і дзявіца касы не чэшэт”. Крушынянскія дзяўчаты строга трымаліся гэтай забароны, адступленне ад якой пагражала чэсаннем — раздрапаннем веснавога засеянага агарода курамі. „Помню, прад гэта свято памыемся, косы запляцем, бо пераважна варкочы рабілі, гладзенька зачэшашся, а яшчэ хустку завяжаш, каб з начы на расчухраціца...”.

А яшчэ ў той дзень маўлялі: „На польскае Звеставанне першы бусел прылятае, а на рускае першае яйцо знясе”.

Адным з важнейшых матываў вялікага посту была асвячаная ў дзень Уваходу Гасподняга ў Іерусалім вярба. Яе неабходнасць у вясковай хаце можна параўнаць са свячою на Грамніцы ці вадой на Хрышчэнне Гасподняе. Галінкі вярбы для асвячэння вяскоўцы прыгатаўлялі, загадзя ставячы іх у ваду, каб распусціліся, потым іх скромна ўпрыгожвалі каляровымі ніточкамі. Тую нітку ад вярбы хавалі аж да жніва як лякарства — перавязку на балючыя ад палявой работы рукі.

На Вербніцу дзеці ўставалі раней за іншых вяскоўцаў. „З вербачкамі лялялі мы да цётак з Макалёў аж пад Гару (пасёлкі Крушынян), па загуменні, каб ніхто не бачыў. Зойдзем, а там спяць, та мы давай іх свяціць гэтымі вербамі гаворачы: „Не я б’ю, вярба б’е, вярба бела б’е без дзела, вярба красна б’е напрасна”.

Асвянцоную ў царкве вярбу затыкалі за абразэ, а праз год, рыхтуючы хату да чарговага Вялікадня, яе пад крокву падтыкалі, каб ахоўвала хату ад пажару. Вярбой замочанай у свянцонай вадзе кароў першы раз на луг выганялі. У аўчарні клалі пад парог два яйкі, авечак таксама вербачкай свянцілі, а тыя яйкі жабракам аддавалі. Узамен жабрак маліўся, каб жывёла добра шыхавала, гадавалася, каб не прападала. Жывёлу першы раз яшчэ перад Юр’я выганялі, як толькі цёпла ставала, праўда, толькі на дзянькі. Ранкі — тады жывёлы перад усходам соцна — пачыналіся абавязкова на Юр’я.

З вярбой ішлі таксама лён слаць. Яе ламалі і крыжыкам клалі на ўсе чатыры рагі разасланага льну, каб яго вецер не панёс. „Часам усякая бывала, віхуры надыходзілі, та пазрывая той лён, памяшая, у каго ўкрадзе, а каму аддасць...”. Парваны, пабіты лён цянютка раскладвалі часам на разлеглых абшарах балота, алавіны — там дзе нічога не сеялі, ці на пожню. У мокрую пару лён ляжаў тры тыдні, як суха было то тыдняў пяцьшэсць, кастрыца перагнівала. Потым лён церлі, усё вытрасалася, аставалася толькі чыстае валакно.

Апошні тыдзень вялікага посту быў асабліва загружаны жаночымі работамі. Трэба было і хаты папрыбіраць, і ежу нагатовіць. „Тады драўляных падлог мала было, мо дзе ў пакоі там хто-нехта меў, а так паўсюль быў гліняны ток, — успамінала спадарыня Марыя. — Гэты ток змывалі каровім лайном — яно добра засыхала і пакрывала вільготную гліну, якую па верху засыпалі жоўценькім пясочкам. Сцены бялілі глеем — шэрай глінай, а зверху найчасцей спецыяльным валачкам наносілі ўсялякія рысункі ў выглядзе зорак і кветак. На іконы вешалі чыстыя ручнікі — „казалі, што няможна, каб ікона голая вісела”. У Чысты чацвер маці спадарыні Марыі заўсёды дзежку чысціла, таксама ў гэты дзень цэлую сям’ю будзіла перад усходам сонца, каб памыліся, каб усе былі чыстыя, бо маўлялі: „Калі слонка ўзыдзе, то варона будзе мыць і твар тады астанецца нячысты”.

З калідора крынкаўскай хаты спадарыні Марыі даходзілі гукі ад уваходзячых хатніх. Значыць, якраз у пару паспелі мы завяршыць усе запланаваныя на сёння справы.

Уладзімір СІДАРУК

# Велікодныя ўспаміны

З Велікодным святам звязаны ў мяне самыя радасныя ўспаміны. Вось што захавалася ў памяці з дзяцінства пра даўнейшую традыцыю святкаванняў.

На два тыдні перад святам пачыналася „свінёбіце”. Даўней амаль кожны на вёсцы займаўся свінагадоўляй — калі не на продаж, дык на ўласныя патрэбы. У каго не было парасят, на прадвесні купляў парку на рынку. Нашы бацькі штогод так рабілі. І хоць не мелі гаспадаркі, адно за сядзібай апрацоўвалі палоску пясчанага поля з агародам, трымалі кароўку, парку свінак ды хатнюю птушку. Адну свінку забівалалі пад Вялікдзень, другую пад Каляды. Яек не куплялі, сваіх хапала. Бацька не забіваў жывёлы. Майстрам па гэтай справе лічыўся сусед Гардзей Саўчук. Мы яго наймалі. За паслугу не плацілі суседу. Пляшка гарэлкі, выпітая пры абедзе, задавальняла яго поўнасцю. Прытым даставаў да хаты пакет свежыны. Каўбаскі рабілі самі. Гэтым займалася маці са старэйшымі сёстрамі. Мяса рэзалі ўручную. Кішкі напіхалі пры дапамозе адмысловай трубкі, прыспасобленай да мясарубкі. Гатовыя вырабы вешалі пры печцы на пруточку. Кумпякі, грудзінку ды паляндвічкі клалі ў салянку — марынад, у якім ляжалі тры-чатыры дні. Пасля ўкідалі суровае яйка. Калі не апускалася на дно, значыцца, што час выймаць мяса. Сфармаваныя шынкі клалі ў нейлонавыя панчохі або калготы. Абвязвалі тоўстай ніткай і разам з падсушанымі ўжо вырабамі неслі вэндзіць. Вэнджанне адбывалася на панадворку ў прыспасобленай „капцілцы”. У каго не было сваёй, дамаўляўся з суседам. За паслугу давалі гаспадару парку каўбасак. Для вэнджання выкарыстоўвалі драўніну альшыны і ядлоўцу. Гэты апошні даваў вырабам лівер (вантробы), сальцісон, крывянку з грэчневай кашай і паштэт. З галавы і ножак варылі „художкі” (студзіны). У 1970-х — 1980-х гадах (і пазней) многія адназяскоўцы карысталіся паслугамі чаромхаўскіх мяснікоў Дзмітрыя Яфімюка і Мар’яна Стэмпняка. Першы працаваў машыністам у паравозным дэпо, другі — вагоннікам. Яфімюк лічыўся майстрам-свінабоем, а Стэмпняк рыхтаваў смачныя вырабы. Апошні карыстаўся папулярнасцю і рабіў вырабы пад вяселлі.



Бацька Хведар Сідарук з матуляй Вольгай, з правага боку — бацькаў сябра Дудэль з вёскі Чаромхі



Дзядзька Раман Сідарук з цёткай Ганнай

Пасху рыхтавала маці з сёстрамі. Пяклі пірог і адмысловыя „мазуркі”, упрыгожаныя каляровымі цукерачкамі. Мы з малодшым братам рыхтавалі хрэн. Карані хрэну капалі на агародах за вёскай. Найбольш клопату было з таркаваннем. Востры пах хрэну пранікаў у нос, выціскаў з вачэй слёзы. Фарбаваннем яек займаліся напярэдадні Вялікадня. Для гэтай мэты выкарыстоўвалі лупінне цыбулі, пасцелья каляпладнікі вольхі і арэшніка. Пасля на каляровых яйках вострым ножыкам скрэблі фарбу і рабілі ўзоры. У велікодную суботу адбывалася пасвячэнне пасхі. „Свянцонку” неслі старэйшыя сёстры. У кошычак клалі фарбаваныя яйкі, хлеб, соль, каўбаску, здобныя булачкі, мазуркі. Зверху прыкрывалі гафтаванай сурвэткай. Цырымонія пасвячэння адбывалася побач царкы. На адвячорку ішлі прыбіраць магілы. На кузаўскім могільніку пахаваныя былі брацік з сястрыцай і бабулька Марыя, бацькава маці. Апоўначы пачыналася ўсяночная. Святочная багаслужба доўжылася каля пяці гадзін. Да снедання засядалі пасля восьмай гадзіны раніцы. Спажыванне страў пачыналі са „свянцонкі”, затым ставілі на стол усё, што падрыхтавалі пад свята. Традыцыйна на першы дзень ішлі на могільнік. Неслі на магілы пасвечаныя яйкі і пасху. Звычаем было таксама абдароўванне дзетак „валачэбным”, як і рознага роду гульні. Самай папулярнай была забава ў „выбіткі”. Гулялі ўсе — дарослыя мужыкі, падросткі і дзеці. Разбітае яйка забіраў пераможца. Першы дзень праводзілі ў сямейным крузе. Чарговы прызначаўся на гасціннае застолле. Бацькі нашы найлепш сваячыліся з суродзічамі з Дабрывады, адкуль выходзіў бацька. Самымі лепшымі для мяне былі дзядзька Раман і цётка Ганна. Набожныя былі гэта людзі. Дзядзька ў царкве прыслугоўваў, пашанай карыстаўся ў аднавяскоўцаў. Нашы сем’і запрашаліся ўзаемна ў госці. Паколькі на Вялікдзень гасцявалі ў Кузаве, мы на Юр’е ехалі ў Дабрываду. Так было па апошнія дні жыцця абодвух братоў Сідарукоў, Рамана з Дабрывады і Хведара з Кузавы. З таго часу мінула больш сарака гадоў. Але памяць па бацьках і блізкіх суродзічах застанецца ў маім сэрцы навечна.



Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА

# Па Бобры

**Масавая камунікацыя, як бы сама назва падказвала, працвітае пры наяўнасці мас. Калі масы пакідаюць, напрыклад, вясковую тэрыторыю, масавая камунікацыя таксама мігруе з вёсак. Вось яшчэ год таму з Беластока раненька адпраўляліся аўтобусы ў распаложаны на Бобры Новы Двор і крыху далейшыя Ліпшчаны; сёлета іх ужо няма. У Дуброву, цераз якую яны праязджалі, можна яшчэ адправіцца ранненькім поездам, які яшчэ ездзіць з Беластока ў Сувалкі. Праўда, у Дуброве трэба яшчэ патупаць каля кіламетра ад чыгуначнай станцыі на акраіне горада да аўтобуснага вакзала, што побач парку ў цэнтры. Вакзал гэты вакзалам ужо толькі з назвы, бо будынак пачакальні закрыты; на лаўчцы перад яго дзвярмі мясцовае дзяжурства спажывае нейкія напоі пад папяросны дым.**

У напрамку Новага Двара з Дубровы адпраўляецца аўтобус па амаль тым самым маршруце, па якім раней ездзіў згаданы раней аўтобус з Беластока. У Дуброве сядае на яго, апрача мяне, дзве жанчыны: адна маладшая, магчыма што на працу ў навадворскай школе або гміннай управе, другая, пажылая, з хаўтурным вянком. На прыпынку ў Хільмонах-Калоніі на борт аўтобуса цяжка ўзвальвае сваё зняможанае гадамі цела пажылы мужчына. І такая мяне там находзіць навеяная будызмам думка, што гэтыя цялесныя пакуты могуць быць вынікам нейкіх духоўных ранейшых грахоў, што датуль душа будзе праходзіць цялеснае чысцілішча, пакуль не стане на бязгрэшны шлях і толькі тады яна дасягне Нірвану, якая ў хрысціянскай тэалогіі называецца Раем.

На чарговым прыпынку аўтобус забірае жанчыну сярэдніх гадоў з, мабыць, сынам гімназічнага ўзросту. Жанчына апранутая даволі бедна, вязе хаўтурны букет; мабыць, яна едзе на тыя самыя пахавіны, што і едучая з Дубровы. На твары новай пасажыркі відаць нейкую задаволенасць, нягледзячы на хаўтурную мэту падарожжа; магчыма ад таго, што ўдалося ёй пры нагодзе вырвацца з хатняй штодзённшчыны навонкі, дзе яна пабачыцца з людзьмі з шырокага навадворскага свету.

Злажу з машыны ў Бобры-Вялікай. На прыпынку чакае аўтобуса маладая жанчына, але не сядае яна ў салон, толькі падае шафёру пасылку ў Новы Двор. Маладзіца акуратненька выстраена, быццам падавалася ў нейкі шыкоўны свет, але падаецца яна хуценька назад у свой жылы блок. Мабыць, для яе выхад на хвіліну да аўтобуса масавай камунікацыі з'яўляецца падзеяй такога рангу, як мне паездка ў Варшаву...

У Бобры-Вялікай быў калісь панскі двор, заснаваны яшчэ ў XVI стагоддзі літоўскімі баярамі Сыруцямі. У міжваенны час уласнікам двара быў пан Тамашэўскі, а ягоным госцем быў не хто іншы, а сам славуты кампазітар, піяніст і палітык Ігнацы Падэрэўскі. Пасля вайны на месцы двара быў заснаваны пэгеэр, а ўласнік маёнтка выехаў у Ніжнюю Сілезію. У 1960-х гадах у Бобры-Вялікай былі пабудаваны жылыя блокі, аборы і хлеўні, а сам панскі будынак у 1984 годзе быў перанесены ў Беластоцкі музей вёскі, што ў Юроўцах.

Паміж блокамі спынілася аўтакрама, але вялікага попыту да яе няма — можа адна-дзве асобы. Каля бляшанага гаража двух мужчын і з імі заводжу кароткую даведачную гутарку. Пытаю пра блокі, якіх там чатыры, адзін са свежа абноўленай абліцоўкай, а тры ў такім выглядзе, у якім яны з'явіліся на свет пры Герку. Таму аднаму блоку пашанцавала, бо палову яго былі займалі пагранічнікі і тая палова была ў свой час абноўлена. А вось другую палову летась абнавілі самі жыхары, абкладаючы блок тэрмаізаляцыяй. Пытаю, чаму на іншых блоках няма такой выгады — мо людзі не маюць за што, бо ж вядома, што ў постпэгеэраўскіх мясцінах жывецца не надта раскошна. Не, не ад нястачы сродкаў тры блокі не маюць тэрмаізаляцыі, толькі ад таго, што складана на нешта згадзіцца, бо адзін хоча што новага зрабіць, а другому і так добра. Усе кватэры ў блоках выкуплены, але бадай дзве з іх пустыя; магчыма, што іх уласнікі трымаюць іх як загарадныя дачы. Бо зараз за гэтым постпэгеэраўскім комплексам абшырныя ставы. Вось і мае суразмоўцы паведамляюць мне, што за тымі ставамі стаіць „забытковы" млын; дзе стаяў колішні двор, яны не ведаюць.

Падаюся ў бок таго старога млына грунтовай дарогай. Ад абораў не чуваць ніякага жывёльнага паху, ды і дзверы ў тых аборах даўно нерухомыя і ледзь так трымаюцца. Паміж гаспадарчымі будынкамі відаць крыху машын для апрацоўкі раллі. За занепадаючымі постпэгеэраўскімі будынкамі ранейшы парк, у якім цяпер панам прырода. Млын не паказваецца і таму калі парк канчаецца, кіруюся за яго акраінай у бок ставаў, бо туды вядзе таксама крыху ўезджаная пара каляін. Заглядаю адтуль у парк — усярэдзіне падобны ён на нейкі прыродны запаведнік на акраіне Белавежскай пушчы. Паваленая драўніна не прыбраная, а некаторыя дрэвы маюць у абхваце па некалькі метраў і іх ствалы амаль зрастаюцца з сабою ў адну магутную сцяну.



Стары млын за Бобрай-Вялікай



Кастры ў Канюшках

Выходжу на бераг абшырнага става; там, дарэчы, гаснуць і каляіны. На абрывістым выступе месца дзейнасці вудзільнікаў, аздобленае адмысловай тарай. Будучыя пакаленні археолагаў, калі будуць там праводзіць нейкія раскопкі, даведаюцца, з чаго сучасны нам рыбалоўны фольк выпіваў, з чаго запіваў і з чаго закусваў... З рыбалоўнага выступу нясмела паказваецца прыхаваны за дрэвамі драўляны млын, адлеглы за дзвесце-трыста метраў.

Акурат у мой час каля млына, які стаіць зараз за высакаватай запрудай, якая і трымае ваду ў ставе і па якой пралягае дарога ад былога маёнтка, спынілася машына, з якой выйшла тройка мужчын. Мужыкі намагаліся выняць адну з плацін запруды; спытаў я іх, калі тая запруда была пабудавана. Не ведалі яны, толькі выказалі меркаванне, што, магчыма, у міжваенны час. І пра млын нічога канкрэтнага яны не ведалі. Паведамілі яны мне затое, што на месцы става будзе збудаваны рэтэнцыйны вадаём дзеля спынення высыхання крыніц Бобры. Крыніцы гэтыя каля Сынкоўцаў, Бобра далей плыве цераз Новы Двор і вось каля Бобры-Вялікай на ёй і тая запруда з млыном. Ужо здаўна чулася мне фраза, што Польшча стэпавее, высыхае. І вось канкрэтная мера для прадухілення гэтага высыхання — рэтэнцыйны вадаём. Вадаём мае будаваць нейкая беластоцкая фірма, але якая — мае суразмоўцы не ведалі. Ужо спушчана столькі вады, што яе ўзровень у ставе апусціўся на семдзесят сантыметраў. А пазней жа і ўсю ваду вызваляць на нейкі час з яго. Што будзе са сфармаваным гадамі мясцовым біятопам, мясцовай экасістэмай? Падасца яна ў нейкі від прыроднага бежанства, з якога адным арганізмам удасца вярнуцца, а іншым мо і не...

Ад Бобры-Вялікай падаюся ў напрамку Сыруцёўцаў; назва вёскі ад згаданага раней баярскага роду. У Сыруцёўцах працуе яшчэ школа, на акраіне вёскі ёсць і крама. У краме працуе тэлевізар, але народу няма; пара ўжо такая, што людзі зрабілі пакупкі, абмяняліся навінамі і разышліся па хатах. І краму можна было б закрыць, хаця на нейкі час. Але ж побач школа, з якой на перапынку можа высыпацца дзетвара і дадаць нешта да ўтаргоўкі. Сама вёска Сыруцёўцы невялікая, але ж паўкіламетра ад яе Бобра — Вялікая, дзе ў жылых блоках сорак восем кватэр і яшчэ крыху асабнякоў...

Іду ў Канюшкі. Вёска гэтая распаложаная маляўніча, хаця гэтага на прадвесні надта не відаць. І вялікага гаспадарання таксама там не відаць. Затое захавалася крыху гаспадарання традыцыйнага, на амаль кожным панадворку куры, на адным панадворку статачак авечак. А за вёскай, дзе пачынаецца пойма Бобры, відаць яшчэ старую дамбу, пабудаваную з камянёў, якіх поўна на навакольных палях. Гэта цікавае гідратэхнічнае збудаванне, узведзенае даўным-даўно, мабыць звычайнай талакой мясцовага насельніцтва. Мела яно ахоўваць палі канюшкаўскіх гаспадароў ад бобранскага паўнаводдзя. Але найбліжэйшыя палі зараслі лесам, а і вады ў Бобры меншае, бо ж яе крыніцы пад пагрозай высыхання. І дамба стала цяпер непатрэбнай. А там, дзе такіх дамбаў няма, край Віслы ці Одры, амаль штогоду гуляе водная стыхія. Працавіты і прадбачлівы быў наш тутэйшы народ...

*(Працяг будзе)*

# Дзень Волі па-ліцэйску

Ганна МОРДАНЬ

Своеасаблівым рытуалам, рэалізаваным мною — выпускніцай бельскіх школ — у межах тугі па падляшскай штодзённасці, з'яўляецца пастаяннае наведванне інтэрнэт-старонкі Бельскага ліцэя імя Браніслава Тарашкевіча. Таму з цікавасцю, але і з пэўным прадчуваннем заглядаю на старонку пасля 25 сакавіка. Мае спадзяванні адносна таго, што там пагляджу і прачытаю, апраўдваюцца.

Фота Аляксея МАРОЗА



Дзень Волі ў Бельскім беларускім ліцэі заўсёды адзначаецца вельмі «багата». Будынак школы звонку, калідоры і класы ўпрыгожаны беларускай сімволікай. Заняткаў у гэты дзень няма, або амаль няма, атмасфера надзвычай свабодная і вясёлая. Ліцэісты бегаюць па калідорах, пераапранаюцца, рыхтуюцца да турніру першых класаў, раскладаюць сталы з традыцыйнымі стравамі. Звычайна ў ліцэй прыязджаюць запрошаныя госці — грамадскія дзеячы, пісьменнікі, журналісты, якія стараюцца зацікавіць моладзь сваёй працай. І так кожны год. Змяняюцца толькі вучні — штогод прыходзяць новыя.

З перыяду маёй вучобы ў ліцэі такія мерапрыемствы ўспамінаю даволі сімпатычна. Важнае было, што адбываліся ўрачыстасці: у школе ў гэты дзень гучала беларуская мова, песні, адчуваўся нават г.зв. «беларускі дух». Добры настрой час ад часу псавалі плакаты пад загалоўкам «Беларусь у маіх вачах», маляваныя вучнямі першых класаў. Яны ў пэўным сэнсе паказвалі стаўленне моладзі да беларушчыны; лейтматыў гэтых прац — мужыкі ў народных вопратках, крытыя саломаю хаты альбо мапы сучасных межаў Рэспублікі Беларусь, на якіх пазначаны Мінск, Пінск, Магілёў, змешчаныя на іх лукашэнкаўскія сцягі, герб «закат над балотам». У гумарыстычна-іранічным варыянце на рысунках былі карыкатура дыктатара ці пачка папяросаў або бутэлька гарэлкі.

У рамках спаборніцтваў, у якіх за свабодны ад «выклікаў да дошкі» дзень змагаюцца між сабой класы, абавязковым элементам застаецца кабарэ. Узровень гумару і ацэнкі журы тым вышэйшыя, чым больш у пастаноўках апранутых у расцягнутыя спартовыя касцюмы і галёшы прасцячкоў і бабуль, якія так смешна размаўляюць на вясковай мове. Бо, зразумела, па-свойму, па-беларуску можна толькі гаварыць-жартаваць на вясковым панадворку.

Як сказала аднойчы мая сяброўка, большая частка ліцэістаў успрымае гэтыя святкаванні быццам магчымасць пераапрануцца ў неграў і паказваць іх народныя стравы і танцы — як нешта зусім чужое. Яны тлумачаць сабе гэта вельмі проста: дзе ж гэты Мінск, хто такі гэтыя Купала ці Крапіва — я ж жыву ў Польшчы, сярод польскай культуры, навошта мне ведаць нейкія вершыкі пра нядолю прыгонных сялян? З цягам часу ўрокі беларускай мовы становяцца ўрокамі замежнай мовы («Ды якая ж яна там замежная? Нават у Рэспубліцы Беларусь ніхто на ёй не размаўляе» — можна падумаць).

Я прайшла ўвесь працэс навучання беларускай мовы — з другога класа пачатковай школы па апошні клас ліцэя і ведаю, што ў праграме няма дастатковага тлумачэння складанай гісторыі Падляшша, чаму, жывучы ў цяперашніх межах Польшчы, мы не маем маральнага права называць сябе палякамі. Надта затое біяграфій і зусім нецікавых для моладзі тэкстаў савецкіх пісьменнікаў. На ўроках у бельскіх «беларускіх» школах я мала даведалася пра творчасць хаця б Сакрата Яновіча ці Міхася Андрасюка, не згадваючы вартых увагі сучасных пісьменнікаў маладога пакалення Беларусі. Згодна з прынцыпам «непатрэбнае на занятку — шкада часу і ўвагі», выдатных і сапраўды цікавых твораў ніхто нават і не чапае. Чаму на ўроках не згадваюцца таксама актывісты родам з Беласточчыны, якія былі сярод стваральнікаў Беларускай Народнай Рэспублікі?

25 Сакавіка ў асяроддзі маладых беларусаў Польшчы адзначаецца як святочны і ўзнёслы дзень. Беларускія ліцэісты вясёла гуляюць, не забываючы прытым аб ідэі. Аднак варта разважыць, колькі выпускнікоў апошніх гадоў удзельнічае ў арганізаваных у Беластоку, Варшаве ці іншых гарадах мерапрыемствах, прысвечаных угодкам абвяшчэння БНР? Колькі з іх разбіраецца ў падзеях беларускага народа, нават не стогадовай даўнасці? Колькі з іх у наступным перапісе насельніцтва ўпэўнена пазначыць сваю нацыянальнасць як беларускую?



## http://artsiadziba.by

Творчасць, нягледзячы на яе паўсядзённую прысутнасць у нашым жыцці, з'ява неардынарная. Праяўляць творчы падыход можна да кожнай справы, нават самай на першы погляд нецікавай і руціннай. У выніку ў такой справе адкрываюцца новыя магчымасці для яе выканання, яна рацыяналізуецца і развіваецца як нейкая галіна вытворчасці ці навукі. З таго творчы падыход можна без перабольшання прызнаць калі не рухавіком прагрэсу, то яго прываднымі рамянямі.

Найбольш яскрава творчы падыход заўважаецца ў мастацтве. Здаецца — што яшчэ можна новага знайсці ў маляванні, спевах, складанні вершаў ці музыкі? Але цэлы час у мастацтве нараджаецца нешта новае, незнаёмае, прыцягваючае ўвагу сваёй нечаканасцю.

Пэўна ў кожнай краіне ёсць не адно месца, дзе збіраюцца людзі творчыя, якія арганізоўваюць і праводзяць разнастайныя імпрэзы, абменьваюцца досведам, поглядамі на жыццё і мастацтва. У Мінску такім месцам з'яўляецца так званая „Арт Сядзіба", пра сайт якой пойдзе ніжэй.

Адметнасцю гэтага сайта, што месціцца па адрасе ў інтэрнэце **http://artsiadziba.by**, з'яўляецца яго незвычайнасць. Тут звыклае дзяленне на тры часткі пададзена як тры маленькія сайты, што тэматычна звязаныя паміж сабой. Выйсці на рубрыкі месціцца выключна ўверсе цэлага выяўлення.

„«Арт Сядзіба» — гэта новае культурна-асьветніцкае месца на мапе гораду. Цікавыя сустрэчы, выставы, канфэрэнцыі, прэзэнтацыі і імпрэзы — усё гэта «Арт Сядзіба»", — так прэзентуюць на старонцы „Пра нас" сваю мастацкую майстроўню ўладальнікі сайта, пад вялікім шэрагам фотаздымкаў пасярэдзіне выяўлення.

На здымках мы можам убачыць іграючых на разнастайных інструментах нейкіх людзей. Магчыма, нехта знойдзе там сваіх знаёмых, але для большасці наведвальнікаў віртуальнага прадстаўніцтва „Арт Сядзібы" гэтыя фоты не гавораць ні аб чым, пакуль застаюцца непадпісанымі.

Рубрыка „Афіша" дае магчымасць пазнаёміцца з раскладам выступленняў і імпрэз у „Арт Сядзібе". Але пададзеныя на гэтай старонцы даты і час мерапрыемстваў, гэта далёка не ўсё, што праходзіць на данай мастацкай пляцоўцы. Калі кліккнуць на змешчанае ўверсе „афішнага" акенца выйсце да Google-календара, то знойдзем яшчэ не адно паведамленне аб надыходзячых падзеях у „Арт Сядзібе".

Пра тое, што прайшло ў мастацкай майстроўні распавядаецца ў рубрыцы „Справаздачы". „За два месяцы (студзень-люты 2012 года — заўв. „Нівы") у нас прайшло каля 50 імпрэзаў. Прычым тут аб'ядналіся розныя плыні, якія маюць беларускі кірунак. І яны рознаўзроставыя і рознафарматныя. На „Арт-сядзібе" выступалі такія асобы, як Зміцер Вайцюшкевіч, Міхал Анемпадыстаў, чакаем Піта Паўлава, сваю прэзентацыю праводзіла суполка „Пагоня" на чале з Алесем Марачкіным і Міколам Купавам, у той жа час тут рабілі свае прэзентацыі маладыя паэты, музыкі і мастакі, ладзіліся дабрачынныя акцыі, выставы аднаго дня", — распавядае ў размешчаным на данай старонцы інтэрв'ю сайта „Будзьма" адзін з заснавальнікаў „Арт Сядзібы" Павел Белавус.

Паколькі „Арт Сядзіба" з'явілася на свет толькі напрыканцы мінулага года, то і сайт яе яшчэ можна назваць нованароджаным. З таго на старонцы „Водгукі" пакуль пуста.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

## Скарбы БЕЛАРУСІ

### Пуцявіны Альбярціна

Сённяшні прыгарад Слоніма Альбярцін, які носіць мілагучную італьянскую назву, у адрозненне ад сваёй метраполіі, не мае слаўнай старажытнай гісторыі. Але гэта рэдкі выпадак, калі мясцовасць, утвораная фактычна па волі і жаданні аднаго чалавека, зажыла асобным жыццём і сфармавала адметную старонку гаспадарчага, рэлігійнага і культурнага рэгіянальнага развіцця, кшталтавала мясцовы патрыятызм і гонар. Трапіць у гэты куточак можна выязджаючы са Слоніма на ўскраек мостам праз рэчку Ісу.

Пачаў пераўтварацца сціплы фальварак, які знаходзіўся паблізу Вялікіх Шылавічаў, у першай палове XIX стагоддзя ў развіты цэнтр і асяродак Альбярцін Войцех Пуслоўскі. Існуе легенда пра тое, як пана Пуслоўскага, які вяртаўся ў сваю сядзібу праз лес, заспела ў дарозе навальніца. Фаэтон спыніўся ля вялізнага каменя і ў гэты момант ляснула маланка, якая раскалола валун на дзве часткі. Уражаны гэтым нябесным знакам Пуслоўскі загадаў размясціць на камені крыж. Крыжа даўно няма, а вось вялізны камень можна пабачыць у лесе і сёння.

Першасная сядзіба Пуслоўскага згарэла, а новыя забудовы стваралі сыны і ўнукі ўладальніка. Іх лёс не быў просты яшчэ з-за таго, што амаль усе прадстаўнікі роду бралі ўдзел у вызвольных паўстаннях. Вядомасць Альбярцін прыдбаў пасля стварэння тут папяровай мануфактуры, прадпрыемства сталася ўдалым. З некаторымі перапынкамі альбярцінская фабрыка дапрацавала да нашых дзён. Пуслоўскія разбудоўвалі маёнтак і ўкаранялі тут тэхнічныя навінкі, развівалі гаспадарку, любілі і шанавалі наваколле. Цікава, што апошні ўладальнік мясцовасці перад нашэсцем бальшавікоў Уладзіслаў Пуслоўскі-ўнук размаўляў пераважна па-беларуску. Паводле ўспамінаў доўгажыхароў быў ён чалавекам не толькі гаспадарлівым, але і спагадлівым, чуллівым да людскіх патрэб.

Асобная малавядомая старонка Альбярціна — гэта дзейнасць тут у 1943-1944 гадах Саюза беларускай моладзі, які ўзгадаваў плеяду выдатных патрыётаў. У Альбярціне выхоўваліся беларускія юнакі. Аналагічная школа для дзяўчат была ў сёння знакамітых Драздах пад Менскам. Сапраўдная гісторыя СБМ яшчэ толькі ствараецца.

Першы раз у Альбярцін мне пашчасціла трапіць у 1996 годзе, калі ў гэтай мясціне, якраз да 400-х угодкаў Берасцейскай уніі, усталёўваўся крыж у гонар адраджанай місіі, якая дзейнічала тут у 1924-1942 гадах. Асвячаў памятную святыню айцец Віктар Данілаў. А некалі тут працаваў сам Антон Неманцэвіч і яшчэ шэраг выдатных асоб хрысціянскага душпастырства ў Беларусі. Зусім нядаўна мой добры сябра, слонімскі краязнавец Сяргей Чыгрын, выдаў гістарычны нарыс пра Альбярцін, у якім адкрыў шырокаму колу нямала цікавых фактаў, асвятліў біяграфіі цэлага шэрагу выдатных асоб, звязаных лёсам з Альбярцінам. Сярод іх, між іншым, і Васіль Быкаў. Вялікі пісьменнік служыў у Слоніме ў войску пасля другой сусветнай вайны, а жыў менавіта ў Альбярціне. У сталыя гады, прыязджаючы ў раённы цэнтр, амаль заўсёды пакідаў сваіх спадарожнікаў і наведваў мясціну сваёй маладосці.

Праз Альбярцін праляглі шляхі-пуцявіны розных пакаленняў насельнікаў беларускай зямлі. З часу Пуслоўскіх у Альбярціне захаваліся палац, стайня, флігелі з паркам. Стаяць праваслаўная царква і каталіцкі касцёл, паміж імі ўніяцкі крыж. Асноўныя матэрыяльныя скарбы ў розны час былі вывезены ў Расею і Нямеччыну. Галоўны ж архіў роду Пуслоўскіх захоўваецца цяпер у Вялікабрытаніі, і ці мала якія загадкі ён яшчэ захоўвае...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

Тэкст і фота Адама БОБРЫКА

# Тамара Захарук — рэктарам універсітэта ў Седльцах

Рэктарам Прыродазнаўча-гуманітарнага ўніверсітэта ў Седльцах была абрана прафесар Тамара Захарук. Яна педагог па адукацыі. З сядлецкай вучэльняй звязана ад пачатку сваёй кар'еры. Навуковыя інтарэсы праф. Тамары Захарук накіраваны на дыягнастычныя і тэарэтычныя пытанні, звязаныя з праблемамі адчужэння і маргіналізацыі людзей з абмежаванымі магчымасцямі і людзей сацыяльна дэзадаптаваных. Асабліва датычаць яны інклюзіўнай адукацыі, у цяперашні час звязанай з арганізацыяй і забеспячэннем псіхолага-педагагічнай падтрымкі дзяцей з асаблівымі адукацыйнымі патрэбамі.

Праф. Тамара Захарук сказала «Ніве»:

— Маёй асноўнай задачай будзе навуковае і арганізацыйнае развіццё ўніверсітэта. Важнай часткай гэтага працэсу з'яўляецца таксама міжнароднае супрацоўніцтва. У цяперашні час універсітэт заключыў 36 дагавораў з навуковымі цэнтрамі за мяжой. У Беларусі нашымі партнёрамі з'яўляюцца ўніверсітэты ў Гродне і Брэсце, а ў Мінску — Дзяржаўны інстытут кіравання і сацыяльных тэхналогій Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта і Міжнародны інстытут працоўных і сацыяльных зносінаў. Мы ўдзяляем вялікую ўвагу таксама абмену моладдзю. Кожны год навучаецца ў нас некалькі дзесяткаў чалавек у летняй школе польскай мовы і культуры. Нашымі студэнтамі з'яўляюцца таксама 39 грамадзян Беларусі. Мне асабліва прыемна, што прыходзяць да нас вучыцца маладыя людзі з Беласточчыны — з Гайнаўкі, Сямятыч, Бельска і многіх іншых мясцовасцей. Сярод іх ёсць і выпускнікі беларускіх ліцэяў. У нас шырокая адукацыйная прапанова. Вядома, кожны знойдзе нешта для сябе.

Праф. Тамара Захарук абавязкі рэктара Прыродазнаўча-гуманітарнага ўніверсітэта стане выконваць з 1 верасня гэтага года.

1 ☞ працяг

# Адміраем, выязджаем

выбарцам іх увядзенне, ды няма адказу. Нічога на сілу, ды трэба з жыхарамі над гэтым працаваць, над іхнімі апаскамі звязанымі з такімі зменамі.

Да ўступных вынікаў перапісу наконт нязначнага, чым некаторыя спадзяваліся, паніжэння ліку асоб ідэнтыфікуючыхся з беларушчынай, аднёсся ў Семяноўцы таксама віцэ-старшыня Сеймавай камісіі нацыянальных меншасцей, падляшскі дэпутат Яўген Чыквін:

— Гэта сведчыць аб наступаючай паланізацыі. Беларуская меншасць не мае магчымасці карыстацца ўніверсалізмам сваёй роднай культуры, так як іншыя. Гэтае насельніцтва надалей трактуе як свой дыскрымінант перш за ўсё праваслаўе, таксама ў культурна-духоўным кантэксце, а беларушчына з'яўляецца нейкім сучасным разуменнем нацыянальнасці — і можа гэта больш зразумелае для людзей маладых.

Былі апаскі сярод беларускага грамадства адносна адкрытага прызнавання ў час перапісу, дэкларавання сваёй прыналежнасці, хаця апытальнікі былі ананімныя. Аказалася, што лік параўнальны. Такая ёсць аб'ектыўная дэкларацыя людзей. Гэта ўказка для беларускіх арганізацый, можа таксама і для нашай камісіі і ўрадавых арганізацый, каб працаваць, пераконваць, вяртаць свядомасць. Усё залежыць ад саміх людзей. Калі самі будуць сябе адчуваць беларусамі, схочуць гэта адлюстраваць у дэкларацыях.

Дэпутат Мірон Сыч, старшыня Сеймавай камісіі меншасцей:

— Камісія схоча даведацца дэталёва, якая метадалогія была прынята пры апрацоўцы дадзеных, чаму ахоплена даследаваннямі толькі 20 працэнтаў насельніцтва, а ў выпадку гмін да гэтай пары меншасных — 25 прац. і ці былі, ці, як ужо афіцыйна гаворыцца, фактычна не былі прыманыя пад увагу вынікі самаперапісу. Прысутны ў Семяноўцы сацыёлаг Мацей Тэфэльскі, упаўнаважаны Падляшскага ваяводы па справах нацыянальных і этнічных меншасцей, у сваю чаргу так інтэрпрэтаваў „беларускі” мaтыў перапісу:

— Паніжэнне ліку беларусаў у разуменні перапісу можна тлумачыць двума працэсамі. Першым: натуральным, значыць, працэсам памірання, што вяжацца з дэмаграфічным мінімумам, які асабліва кранае ўсходнія тэрыторыі нашага ваяводства. Другім: міграцыйным працэсам асабліва моладзі ў іншыя цэнтры, у якіх лічаць, што лягчэй жыць, між іншым па-за межы краіны, а таго абшару перапіс не ахопліваў. Выўшы на іншай тэрыторыі краіны прызнаванне сябе да меншасці бывае цяжкай з'явай, таму што можна быць адмоўна назначаным. Прытым у нас моцна закадзіраваная вера ў тое, што нашы персанальныя дадзеныя не будуць засакрэчанымі. Гэта, мабыць, мае сувязь з паўсюднымі ўцечкамі розных персанальных дадзеных.

А вось як дэклараваліся ў нацыянальным перапісе грамадзяне Польшчы іншых нацыянальнасцей (у дужках нацыянальнасць дэкларавана як першая); лік у тысячах: сілезская — 809 (418), кашубская — 228 (17), нямецкая — 109 (49), украінская — 48 (36), ромская — 16 (12), руская — 13 (8), амерыканская — 11 (1), лэмкаўская — 10 (1).

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — іспанскую пагаворку.

1. выпрацаваная авечая шкура = 11 _ 12 _ 31 _ 32 _ 10 _ 24 _;
2. сукупнасць звестак, якія раскрываюць аб'ектыўныя заканамернасці жыцця ў... старажытнаіндыйскай рэлігійнай літаратуры = 21 _ 22 _ 29 _ 30 _ ;
3. асобны квартал горада выдзелены для пражывання дыскрымінаваных груп насельніцтва = 13 _ 5 _ 2 _ 8 _;
4. месца працы лесніка = 27 _ 25 _ 26 _;
5. лакаматыў + вагоны = 7 _ 3 _ 20 _ 9 _ 23 _;
6. адпачынак у... парасоне = 6 _ 14 _ 19 _;
7. адкрытая галерэя або балкон у верхняй частцы царкоўнага нефа = 1 _ 28 _ 15 _ 16 _;
8. службовы разрад у... аўчыне = 17 _ 18 _ 4 _.

(ш)

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | 1 | 2 | 3 |
| | | | | | 4 | 5 |
| 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
| | 13 | 14 | 15 | 16 | 17 | 18 |
| | | | | | 19 | 20 |
| | | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | 31 | 32 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 10 нумара**

Карова гаворак, калі сам асілак, рагам змагар.

Кніжныя ўзнагароды высылаем **Казіміру Радошку** са Свебадзіцаў і **Аляксандру Дабчынскаму** з Беластока

# 08.04 — 14.04

**(22.03. — 20.04.)** Да 10.04. канфлікты (у другой палове месяца эмоцыі ападуць). Не будзь агрэсіўным, супакойся. Спробы разабрацца ў сваіх справах могуць не прынесці рэзультату. Спакойна ўсё адсоч, не мяшайся, не высоўвайся, дай справам ісці сваім ходам.

**(21.04. — 21.05.)** Твая праца будзе карысная і прынясе задавальненне; шмат навучышся і развінешся. Выкарыстоўвай кожны дзень да максімуму. Асабліва добра ў справах звязаных з даходамі, грашыма і нерухомасцю. Зможаш вырашыць справы ў асабістай сферы. Усе будуць шукаць у цябе парады, але больш аддай часу самому сабе.

**(22.05. — 22.06.)** Можаш наладзіць важнае супрацоўніцтва, падпісаць важную дамову. Дбай аб горла, гартань, дыхальныя шляхі. На пачатку тыдня могуць быць важныя праверкі, якія паўплываюць на розныя сферы твайго жыцця, перш за ўсё на фінансавую, таму будзь асцярожны і ўважлівы. У канцы тыдня міла ў сям'і, толькі не прынось дахаты спраў з работы.

**(23.06. — 23.07.)** Працуй! Падтрымаюць цябе людзі, якім ты памагаў. Маеш магчымасць шмат чаго дабіцца. Не афармляй, аднак, важных інтарэсаў з 13.04. (да 17.04.) — хутчэй дастанеш з кашалька, чым укладзеш туды грошы. Ты цяпер схільны драматызаваць падзеі. Могуць цябе чакаць перамены, на якія табе не схочацца ўплываць (можа гэта і лепш?).

**(24.07. — 23.08.)** Ты надалей у выдатным настроі. Да 11.04. дробныя праблемы могуць вырасці да невырашальных. З 13.04. (да 17.04.) не будзеш вельмі аптымістычным, а поўным боязі і апасак. Праўда, прыйдзецца расплачвацца за былыя паводзіны, рашэнні і мэты, адрабіць частку сваёй кармы; лепш не прымай актыўнага дзеяння.

**(24.08. — 23.09.)** Будзеш вельмі актыўны, а работа будзе кіпець табе ў руках. Добры час для новага, пабудовы планаў і іх рэалізацыі. Нічога не акладвай. Рабі ўсё адразу, бярыся за адкладзенае раней. Канец тыдня багаты ў новыя ідэі.

**(24.09. — 23.10.)** Справы надалей крыху складаныя, Сатурн не дае табе развінуць крылаў. На пачатку тыдня магчымы непрыемны інцыдэнт, абраза, паступак супраць цябе; будзе гэта цягнуцца тыдзень, ды справішся з гэтым. У сярэдзіне тыдня вялікі зарад энергіі, які дасць табе сілу перамагчы любое. Намець выразны план дзеянняў.

**(24.10. — 22.11.)** Ад 9.04. больш будзеш планаваць, чым рабіць. Пераканаешся, што акружаюць цябе верныя сябры. Магчымае вяселле, чаепіцце, вечарынка. Справы будуць плысці плаўна, без твайго ўмяшання. Адпачывай! Калі б былі складанасці, не рашай іх адзін. Не вер ні чаму, чаго не ўбачыў на ўласныя вочы.

**(23.11. — 22.12.)** Выхадныя можаш правесці ў іншым месцы, вельмі добра адпачнеш. Ды 11-15.04. будзеш схільны да неабдуманых дзеянняў; могуць папракнуць цябе не ў тваіх памылках і лішне сурова ацаніць твае паводзіны. На працы аддай час бягучым справам і даручэнням кіраўніцтва.

**(23.12. — 20.01.)** „Праз церні да зор!” Увесь тыдзень ты ў змаганні з самім сабою, паміж ахвотай адпачыць і рухам уперад. Расставанне з мінулым не будзе балючым, хутчэй стане патрэбай, чым воляй лёсу. Дзейнічай у згодзе з самім сабою.

**(21.01. — 19.02.)** 7-11.04. можаш сустрэць каханне свайго жыцця, вельмі карысна інвеставаць свае грошы. Хапайся за нагоды! Штосьці дрыгне ў тваіх сардэчных справах! Спакойна назірай за ўсім. Ды з 11.04. (да 15.04.) не ўпірайся занадта на сваім, не папсуй адносін з блізкімі. Не будзь напорыстым.

**(20.02. — 21.03.)** Спачатку прывяжацца да цябе назойлівая ідэя, якая будзе цябе штурхаць да пошукаў другой палавінкі і новых забаў. Тыдзень лепш аддай аналізу самога сябе і складаных сітуацый. Адзінокая Рыба можа прыемна і перспектыўна пазнаёміцца. Добры час навесці парадак дома. 10-14.04. не ўсё пойдзе па тваёй думцы.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.iig.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.iig.pl*
*Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Administracji i Cyfryzacji.*
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Ілона Карпюк, Міраслава Лукша, Аляксей Мароз, Мацей Халадоўскі, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
Termin przyjmowania wpłat do 5-go dnia każdego miesiąca poprzedzającego okres rozpoczęcia prenumeraty.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „RUCH” i „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Cena prenumeraty kwartalnej: I kwartał — 32,5 zł., II kwartał — 32,5 zł., III kwartał — 35,0 zł., IV kwartał — 32,5 zł., rocznej — 132,5 zł.
**Prenumerata z wysyłką za granicę**
Wpłaty przyjmuje „RUCH” S.A. ul. Annopol 17a, 03-236 Warszawa; telefony: +48(22) 69-36-775, +48(22) 69-36-782, +48(22) 69-36-718; www.ruch.pol.pl
**Prenumerata w redakcji**
Planowana ilość numerów „Niwy” w 2012 roku — 53.
**Przesyłka zwykła:** Cena 1 egz. wraz z wysyłką w kraju wynosi 4,2 zł.

**Wpłaty przyjmuje: Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład**: 1 300 egz.

Тэкст і фота Уладзіміра ХІЛЬМАНОВІЧА

# Пілігрымка ў сучаснае і гісторыю Святой Зямлі

**Паломніцтва ці вандроўку ў Ізраіль найлепей планаваць з сярэдзіны лютага да сярэдзіны красавіка. Гэта тая пара, калі зазвычай ужо цёпла, расцвітаюць вішні і міндальныя дрэвы, што сімвалізуе надыход вясны, няма спёкі, якую прыносяць вятры з мора. Збіраўся ў гэтую краіну я даўно, урэшце здзейсніўшы запланаванае. Ці мог я яшчэ хлопчыкам, які рос на беларускіх хутарах, марыць пра такое падарожжа ў Святую Зямлю? Напэўна не, хоць прага спазнання новых зямель і культур жыве ў кожным з нас яшчэ з дзяцінства.**

Трапіць у Ізраіль з Беларусі досыць складана. Прычынаў таму некалькі. Найперш праблема візы, атрымаць якую не так проста, а таксама неразвітасць беларускага турыстычнага сервісу, нізкі матэрыяльны стан бальшыні жыхароў краіны. Так што паломніцкіх і турыстычных груп з Беларусі ў Святую Зямлю выбіраецца вельмі мала. Можна толькі пазайздросціць нашым суседзям — украінцам, якія могуць ляцець у Ізраіль без віз і больш таго легальна там пражываць цэлыя тры месяцы. Некаторыя скарыстоўваюцца гэтым правам і застаюцца на месяц-два папрацаваць. У нашай турыстычнай групе былі пераважна цётачкі старэйшага веку з розных украінскіх гарадоў і мястэчак. Падумалася, што іх равесніцы з Беларусі наўрад ці могуць дазволіць сабе такое паломніцтва.


Дарожная панарама

## У Тэль-Авіў праз Наваельню

Выехалі мы з сябрам з Гародні ў Кіеў марозным днём на рэйсавым цягніку, у плацкартным вагоне савецкай вытворчасці ўжо далёкіх васьмідзесятых мінулага стагоддзя. Мы былі ледзь не адзіныя пасажыры гэтага прамерзлага наскрозь вагона — напэўна так — з выпрабавання і мусіць пачынацца пілігрымка. Шлях цягніка аказаўся досыць мудрагелістым і пралягаў, між іншым, праз Наваельню Дзятлаўскага раёна. Праязджаючы праз гэтую станцыю, прыгадалася, як летась у слаўнай кампаніі на беразе Моўчадзі мы размаўлялі ў тым ліку і на біблейскую тэматыку. Сталіца Украіны сустрэла яшчэ большым марозам, а вольны час мы аддалі наведванню Кіеўска-Пячэрскай лаўры і пашпацыравалі па Хрышчатыку. З раніцы наступнага дня чакаў вылет у краіну, якую мы бачылі толькі ў тэлевізары, пра якую чыталі толькі ў інтэрнэце...

Тры гадзіны пятнаццаць хвілін пералёту з Кіева праз усю Украіну, Чорнае мора, тэрыторыю Турцыі і Кіпра, Міжземнае мора і мяккая пасадка ў аэрапорце імя Давіда Бен-Гурыёна. Аэрапорт быў пабудаваны яшчэ ангельцамі ў 1936 годзе, некалькі разоў мадэрнізаваўся і мяняў назву, а ў гонар першага прэм'ер-міністра краіны быў перайменаваны якраз у год яго смерці ў 1973 г. Насуперак чаканням пашпартны і асабліва мытны кантроль у аэрапорце выглядаў досыць фармальна. Забягаючы наперад скажу, што аналагічныя працэдуры пры выездзе былі куды больш жорсткімі. І напэўна нездарма — галоўны аэрапорт Ізраіля прызнаны самым бяспечным у свеце з гледзішча тэрарызму.

Пасля кантролю ў аэрапорце нас ужо сустракаў гід. З ім нашай групе пашанцавала надзвычай. Рэдка сярод людзей гэтай прафесіі можна спаткаць настолькі дасведчанага чалавека. Выявілася, што наш экскурсавод Аляксандр родам з Беларусі — з Бабруйска. Семнаццаць гадоў таму ён скончыў Мінскі лінгвістычны ўніверсітэт і пераехаў у Ізраіль, дзе паспяхова сумяшчае працу ў турфірме з мастацкім фатаграфаваннем. Іншым нашым пастаянным спадарожнікам амаль на тыдзень стаў кіроўца, араб па імені Халіль. У перакладзе на нашу мову гэтае імя азначае „сябрук". На ажыўленых мясцовых трасах Халіль выяўляў проста зайздросны спрыт. Стасункі габрэяў і арабаў у Ізраілі досыць спецыфічныя. Паміж імі дастаткова добрыя дачыненні на працы, у прафесійнай сферы, яны могуць разам выпіць кавы ў бары, але ў госці адны да другіх не ходзяць, жывуць адасоблена. Гарады і мястэчкі пераважна насяляюцца тымі ці іншымі, якія выразна дамінуюць.

Аэрапорт, дарэчы, размешчаны паблізу шашы № 1, якая і вядзе ў Іерусалім. Трэба сказаць і пра істотны перапад тэмпературы паветра — з мінус 20 градусаў у Кіеве да плюс 15 у Тэль-Авіве. Шлях у Віфлеем, дзе нам быў зарэзерваваны начлег, пралягае ўздоўж узбярэжжа і вядзе ў Іудзейскія горы. Усяго прыблізна гадзіна язды. Насуперак геаграфічным стэрэатыпам Ізраіль не такая і маленькая краіна: з поўначы на поўдзень працягласць 860 кіламетраў, з захаду на ўсход найменшы адрэзак складае 120 кіламетраў. Вільготнасць у Ізраілі досыць нізкая, таму вады нам рэкамендавалі піць шмат. Праўдзе, я асабліва смагі і не адчуваў, бо ў гэты час няма яшчэ гарачых вятроў з упалам.

Агульная колькасць жыхароў краіны на сёння складае 7 з паловай мільёна чалавек, паводле іншых звестак — амаль 8. Тры мільёны 300 тысяч складаюць ізраільскія арабы, якіх у некаторых статыстыках залічаюць да габрэяў, яшчэ паўтара мільёна — палесцінскія арабы.


Галоўная мячэць Віфлеема

Акрамя гэтага ёсць каларытныя нацыянальныя меншасці — такія як друзы, чаркесы — іх агулам каля 330 тысяч. Што датычыць канфесійнай структуры, то яна настолькі стракатая, складаная і заблытаная, што патрэбна пражыць там напэўна з год, каб разабрацца ў веравызнаннях, рэлігійных практыках, абрадах і іх разнастайных нюансах. Прынамсі для мяне, чалавека з гістарычнай адукацыяй, а таксама досведам працы ў музеі гісторыі рэлігіі, хутка стала зразумела, што я ведаю зусім мала.

Шлях у Віфлеем вядзе праз ускраіны Іерусаліма, на ўездзе ў які кідаюцца ў вочы тэрасныя сады Сахарава — што і казаць, вялікі фізік, дысідэнт і праваабаронца ўшанаваны тут належна.

## „Нарадзіцца ў Бэтлееме, у Гародні спачываць"

Гэтыя радкі гарадзенскага паэта прыгадаліся пры ўездзе ў Віфлеем — горад, дзе з'явіўся на свет Ісус Хрыстос. Гэта горад на тэрыторыі старажытнай Іудзеі, назва якога на розных мовах вымаўляецца па-рознаму. Рэч у тым, што ў арабаў няма літары і гуку „вэ", адсюль і варыянт „Бэтлехэм", у каталіцкай традыцыі „Бэтлеем". Характэрна і глыбока сімвалічна, што назва ў перакладзе з іўрыту азначае „Дом хлеба", а з арабскай — „Дом мяса". Фактычна Віфлеем сёння з'яўляецца ўжо прыгарадам Іерусаліма, але са сваім спецыфічным жыццём. Адзін з галоўных хрысціянскіх гарадоў, як вядома, сёння на тэрыторыі Палесцінскай аўтаноміі, якая падзелена на некалькі сектараў. Уезд толькі праз блок-пасты, але абстаноўка падаецца спакойнай. На пастах з шлагбаўмамі пераважна маладыя хлопцы і дзяўчаты з аўтаматамі, часам нават еўрапейднай знешнасці, якія могуць ветліва памахаць рукой, заходзяць у турыстычныя аўтобусы, але пасутнасці нічога не правяраюць, запытваючыся толькі пра агульную колькасць пасажыраў. Мы былі здзіўлены, калі наш гід папрасіў каго-небудзь сесці на яго месца, а сам схаваўся ўглыб аўтобуса. Крыху пазней высветлілася, што ізраільцяне не вітаюць наведванне сваімі Віфлеема, таму што раней у горадзе здараліся выкраданні габрэяў арабамі. У самым горадзе некалькі вялікіх гатэляў з турыстамі ўсіх масцяў: найбольш тут палякаў, расейцаў, украінцаў і немцаў. На вуліцах шмат маленькіх крамак. Іх уладальнікі і гандляры зазываюць пакупнікоў проста на вуліцы. Няма ніякіх праблем і з моваю. Да нас адразу пачалі звяртацца па-польску і па-расейску. Разлічвацца ўсюды ў турыстычна-паломніцкіх асяродках у Ізраілі можна не толькі шэкелямі (арабы не вымаўляюць літару „ш" і кажуць „чэкелямі"), але і доларамі. Амерыканскімі „зялёнымі", праўда, выходзіць крыху даражэй. Паўтаралітровая бутэлька звычайнай вады каштуе адзін долар, а газаванай — ужо два. Можна смела піць ваду і з крана. Усюды прадаюць шмат садавіны і гароднiны, а таксама процьму разнастайных сувеніраў.

У нашым шматпавярховым гатэлі ў інтэр'еры працвітаў сапраўдны экуменізм: там можна ўбачыць праваслаўную ікону і партрэт Ясіра Арафата, статуэтку Маці Божай Фацімскай і арабскія кілімы з вялікімі вазамі на падлозе. У Віфлееме таннейшыя кошты на гатэлі і на харчаванне, таму тут канцэнтруецца шмат турыстаў і ідзе забудова новых гатэльных асяродкаў. Агульнае ўражанне некаторай хаатычнасці і анархіі. Багатыя дамы-вілы суседнічаюць з паўразбуранымі камяніцамі. У горадзе шмат друзу і смецця, ніхто асабліва не спяшаецца іх прыбіраць. Сам гатэль „Paradis" досыць утульны, але а пятай раніцы прачынаешся міжволі — будзіць працяглы спеў мулы з нейкага мясцовага мінарэта, які заклікае на ранішнюю малітву. У горадзе жыве і адна са старэйшых хрысціянскіх абшчын, колькасць вернікаў якой з гадамі няўхільна скарачаецца. Яны папросту выязджаюць адсюль у іншыя рэгіёны. Ёсць каталіцкі ўніверсітэт, які быў заснаваны ў 1973 годзе, і ў якім навучаюцца студэнты розных веравызнанняў.

Старажытная гісторыя Віфлеема, некалі невялікага паселішча, цалкам супадае з агульнай гісторыяй усёй Святой Зямлі і яе нават кароткае апісанне зойме не адну старонку. Што датычыць біблейскіх сюжэтаў, то менавіта тут нарадзіўся і быў памазаны пракорам Самуілам на царства Давід. Ну, а галоўная хрысціянская святыня — канешне месца, дзе здзейснілася Раство, першы важны пункт нашага паломніцтва, пра што ў наступным нумары.

ISSN 0546-1960